№ 23 (908) 17 чэрвеня 2015 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



## Лідар зборнай Беларусі па футболе зняславіўся

Старонка 12

## Людзі, ідзе падпіска на паўгоддзе!

Не забудзьце падпісацца самі, падпісаць сваякоў!
**«Наша Ніва» — гэта ваша ніва. Старонка 2.**

# «Асобныя рускія таварыствы пераходзяць усе межы»

6 чэрвеня каля Магілёўскага дзяржаўнага бібліятэчнага каледжа імя А.С. Пушкіна ўрачыста адкрылі **бюст расійскага паэта**.

Нічога кепскага тут няма. У Беларусі Пушкіна ведаюць, любяць, чытаюць. Аднак адна дэталька помніка, а менавіта шыльда з вершам «Паклёпнікам Расіі», выклікала абурэнне.

На помніку, устаноўку якога аплаціў дзіўны фонд з Расіі, быў выбіты наступны ўрывак:

«…Иль нам с Европой спорить ново?
Иль русский от побед отвык?..
…Стальной щетиною сверкая,
Не встанет русская земля?..
Так высылайте ж к нам, витии,
Своих озлобленных сынов:
Есть место им в полях России,
Среди нечуждых им гробов…»

Адметна, што гэты верш Пушкіным быў напісаны пасля задушэння паўстання 1831 года, у якім удзельнічалі ў тым ліку і беларусы.

«Адна справа, калі гэта помнік класіку літаратуры. А зусім іншае, калі імя Пушкіна выкарыстоўваецца ў палітычных мэтах, — кажа выкладчык Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта Віталь Еўмянькоў. — Выкарыстаць гэтыя радкі з творчасці Пушкіна — гэта ўсё адно як з Бібліі працытаваць толькі «Вока за вока». Верш Пушкіна «Паклёпнікам Расіі» быў напісаны якраз пасля задушэння паўстання 1831 года, уся Еўропа тады асудзіла гвалт Расіі. Тая сітуацыя нагадвае сённяшняе становішча ва Украіне».

**Працяг на старонцы 3.**



MYCITY.BY





**Так помнік Пушкіну адкрывалі... ...а так праз 6 дзён замалёўвалі.**



# «У нас тут свая Беларусь»

Спецрэпартаж з трэніровачнай базы палка «Азоў» у Кіеве. **Старонкі 4—5.**

Беларусы з «Азова» (злева направа): Кіт, Грот, Ліцвін.

## У Маладзечне рабочыя забастоўкай дабіліся выплаты заробку

Завод металаканструкцый спыніў работу 10 чэрвеня, а 12-га на прадпрыемства прыехаў **Сямён Шапіра**. **Старонка 6.**

## Параска і яе чорны бык



**Святлана Курс** упершыню публікуе апавяданне пад уласным імем. Раней гэтая выдатная аўтарка выкарыстоўвала псеўданім **Ева Вежнавец**. **Старонка 14.**

## Гісторыя Беларусі

Частка XXXIV. Змаганне за Полацк. Піша **Алег Дзярновіч**. **Старонка 13.**

# Хакеры сцвярджаюць, што здабылі сакрэтны план Генштаба РФ захопу Украіны за 15 сутак

**Копіі плана** апублікаваў дэпутат Вярхоўнай Рады Украіны, дарадца міністра ўнутраных спраў Антон Герашчанка.

План прадугледжвае захоп тэрыторыі ўсёй левабярэжнай Украіны з мяжой зоны акупацыі па Дняпры.

«У красавіку 2015 Генштаб Расійскай Федэрацыі зацвердзіў чарговы працоўны план захопу левабярэжнай Украіны. Нарада па зацвярджэнні гэтага плана праходзіла 8—9 красавіка ў Санкт-Пецярбургу ў штабе Заходняй ваеннай акругі, пасля чаго адбылася вялікая генеральская гутарка. На захоп усёй левабярэжнай Украіны, паводле плана Генштаба РФ, адводзіцца ўсяго 15 сутак. Мэта — хуткае ўстанаўленне кантролю на тэрыторыяй і камунікацыямі, без захопу буйных гарадоў і абласных цэнтраў. У адпаведнасці з планам батальённаў тактычныя групы рэгулярнай Расійскай арміі, аб'яднаныя ў групу войскаў «Поўнач», павінны будуць уварвацца на тэрыторыю Украіны ў два этапы: спачатку ў Харкаўскую і Данецкую вобласці, а затым у Палтаўскую, Кіеўскую і Чарнігаўскую. Пры гэтым уварванне плануюць па старой звычцы маскіраваць пад наступы ордаў «апалчэнцаў» ЛНР / ДНР, якія назапасілі сілы і хочуць аднавіць канстытуцыйны парадак ва Украіне без вяртання Януковіча», — адзначае Герашчанка.

Ён піша, што план захопу левабярэжнай Украіны да Дняпра дэталёва распісаны ў дакуменце «Даклад рашэння на прымяненне групоўкі войскаў «Поўнач» у спецыяльнай аперацыі», які мае грыф «цалкам сакрэтна» і ўтлумачальнай запісцы да гэтага плана.

Паводле яго інфармацыі, аналагічны план распрацаваны камандаваннем Паўднёвай вайсковай акругі РФ. Мэта Паўднёвай групы войскаў — удар на Запарожжа і Мелітопаль праз раён Бярдзянска і Марыупаля і выхад да Перакопскага перашыйка для адкрыцця сухапутных шляхоў у Крым.


ДОКЛАД РЕШЕНИЯ
на применение группировки войск «Север»
в специальной операции

1. ВЫВОДЫ ИЗ ОЦЕНКИ ПРОТИВНИКА

В зоне проведения АТО, в полосе действия группировки войск «Север» ВС Украины насчитывают:

батальонов — до 46, в том числе: БТГР — 29, отдельных батальонов — 17 личный состав ВСУ — до 36000

Справочно:

из них: на переднем крае — батальонов — до 42, в том числе: БТГР — 25, отдельных батальонов — 17, личного состава — до 22000.

Танков — до 340, ББМ — 1420, Ор ПА и М — до 600, РСЗО — около 130, боевых самолётов — 36 (на аэродромах МИРГОРОД — 10 МиГ-29, ЧУГУЕВ — 10 МиГ-29, ВАСИЛЬКОВ — 16 МИГ-29), транспортных самолётов — 12, вертолётов АА — 36 [illegible]

НГ — около 4800;
ГПС — 3200;
МВД — 4400;
СБУ — до 500;
ЧОП — до 1000.

Тактический резерв группировки насчитывает — ВС 5900, батальонов — до семи (80, 81, 95 оаэмбр, 25, 79 овдбр, до двух БТГр 93 омбр), танков — 15, ББМ — 50, ор.ПА и М — 90, РСЗО — 25, МВД — 60 чел., СБУ — 130 чел.

Праверыць верагоднасць дадзеных планаў, вядома ж, немагчыма.

**Мікола Бугай**

**Цалкам план можна прачытаць на сайце NN.BY**

## Сціслa

### «Паланэз» прайшоў выпрабаванні ў Кітаі

Беларуская рэактыўная сістэма залпавага агню прайшла выпрабаванні ў Кітаі. «Не так актыўны наш саюзнік, Расія, у падтрымцы нашых памкненняў», — прызнаў Аляксандр Лукашэнка і падзякаваў кіраўніцтву Кітая.

### Беларусы даслалі на радзіму $1,3 мільярда

Паводле падлікаў ААН, за мяжой летась працавала 1,5 мільёна працоўных мігрантаў з Беларусі. Яны даслалі на радзіму $1,3 мільярда толькі ў выглядзе грашовых пераводаў. А колькі ў кішэнях прывезлі...

### Веласіпедыстка ехала абы-куды

15 чэрвеня ў Мінску на вуліцы Аэрадромнай адбылася жорсткая аварыя. 64-гадовая веласіпедыстка ехала па праезнай частцы ў крайняй правай паласе ў сустрэчным накірунку. Перад ёй спыніўся аўтобус, і, каб яго аб'ехаць, яна выехала ў другую паласу справа. У гэты момант *Audi Q7* перастройвалася ў крайні правы шэраг, дзе і адбылося сутыкненне. Жанчыну даставілі ў рэанімацыю, яе жыццё вісіць на валаску.

### У Еўропе памёр першы заражаны MERS пацыент

У Германіі ў выніку захворвання рэспіраторным сіндромам (MERS) памёр 65-гадовы мужчына. Вядома, што ў лютым ён ездзіў у адпачынак у Арабскія Эміраты, аднак як менавіта ён заразіўся, не высветлілі. Лічылася, што пераносчыкамі віруса былі вярблюды. Аднак цяпер успышка захворванняў зафіксавана ў Карэі, дзе вярблюды не водзяцца.

**ЯМ**

## Апытанне на nn.by

### Як будзеце адпачываць гэтым летам?

| | | |
|---|---|---|
| Паеду ў родавую вёску | 147 | 12% |
| Буду на дачы | 140 | 11% |
| Паеду на мора за мяжу | 241 | 19% |
| Паеду за мяжу, але не на мора | 130 | 10% |
| Пайду ў паход | 70 | 6% |
| Адпачынак будзе актыўны (раскопкі, будоўля, дапамога сваякам...) | 108 | 9% |
| Буду працаваць | 404 | 33% |

Прагаласавала 1240 чалавек

## Забароненыя здымкі: расійскі блогер зняў цэнтр Мінска з верталёта

Дзмітрый Балакіраў зрабіў прыгожыя здымкі цэнтра Мінска з вышыні птушынага палёту. Ён запусціў квадракоптар — маленькі верталёт з замацаванай камерай. Апарат праляцеў над цэнтрам сталіцы Беларусі і сфатаграфаваў адміністратыўныя будынкі, якія здымаць «не рэкамендуецца».

«Я ўзляцеў ранняй раніцай перад самым ад'ездам. Чамусьці да канца не верылася, што загучыць сірэна і прыедуць людзі ў форме. Агулам паздымаў хвілін 15. Але застаўся задаволены вынікам. Спадзяюся, мне ўдалося хаця б часткова перадаць атмасферу горада. Ён вельмі зялёны і просторны», — адзначае фатограф.



**Від зверху на Кастрычніцкую плошчу і Адміністрацыю прэзідэнта.**

## Нашэсце вусеняў у Маладзечанскім раёне ўдалося лакалізаваць

Тыдзень таму паведамлялася, што нашэсце вусеняў няпарнага шаўкапрада напалохала жыхароў вёскі Канюхі ў Маладзечанскім раёне.

На наступны дзень пасля паведамленняў на месца выехалі супрацоўнікі раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях. Ратавальнікі з дапамогай аўтавышак і бензапілаў спілавалі аб'едзеныя дрэвы і ачагі з коканамі.

Дзякуючы намаганням супрацоўнікаў МНС сітуацыя не выйшла з-пад кантролю і засталася лакальнай праблемай для мясцовых жыхароў і іх гаспадарак. У пасёлку Беразінскі, што месціцца побач з Канюхамі, жыхары пагадзіліся на санапрацоўку раслін і дрэваў, каб спыніць наступства шаўкапрада.

Няпарны шаўкапрад — гэта не прышлы монстр, а звыклы для Беларусі від. Прычына яго размнажэння сёлета — цёплыя, сухія зіма і вясна. Спыніць распаўсюд яго можа дажджыстае надвор'е, якое замінае параванню матылькоў шаўкапрадаў і прыводзіць да адкладання неаплодненых яек.

**Сяргей Гудзілін**

## Пад Брэстам разбіўся самалёт Іл-103

Два чалавекі **загінулі**.

«14 чэрвеня ў 12.09 пры выкананні палётнага задання па выяўленні пажараў у экасістэмах адбылося падзенне паветранага судна Іл-103 РУП «Беллесавія» за некалькі кіламетраў ад брэсцкага аэрапорта. Загінулі камандзір паветранага судна Міхаіл Юр'евіч Мядзведзеў і старшы лётчык-назіральнік Аляксандр Іванавіч Барысюк», — паведамілі ў прэсслужбе МНС.

Створана камісія па высвятленні прычын падзення самалёта. Да высвятлення ўсіх абставінаў выкарыстанне самалётаў дадзенага тыпу часова прыпынена.



**БелТА**



## Самае чытанае на nn.by за 10—16 чэрвеня

1 «Раптам з'явіліся літвіны…»: у нямецкіх хроніках знайшліся сенсацыйныя звесткі пра Кулікоўскую бітву

2 Андрэй Дынько: Беларусь не Расія, сем прынцыповых адрозненняў

3 На заводзе металаканструкцый у Маладзечне рабочыя адмовіліся выходзіць на работу

4 «Справа прынцыпу» без прынцыпаў: карэспандэнт «НН» пабываў на ток-шоу Вадзіма Гігіна і пранік у закуліссе

5 Якім мае быць беларускі выпускны: ВІДЭА і ФОТА з 23-й гімназіі Мінска

6 Беларускі гідраметэацэнтр: Крым — гэта Украіна. І больш не пішыце нам

7 У Данецку сабраўся стыхійны антываенны мітынг

8 Капітан зборнай Беларусі па футболе: Ідэальна, калі б мы былі з Расіяй адной краінай

9 Рух на трасе Брэст — Мінск заблакаваны ў раёне Коласава, як і штонядзелі

10 Па слядах Пастаялкі. Як Васіль Жарко зрабіў кар'еру міністра аховы здароўя

# «Асобныя рускія таварыствы пераходзяць усе межы»

Працяг са старонкі 1.

Гэты помнік быў усталяваны з дапамогай праекта «Алея расійскай славы». Гораду бюст Пушкіна проста падарылі — ад падарункаў адмаўляцца не прынята.

Кіраўнік праекта «Алея расійскай славы» Міхаіл Сердзюкоў у адным з інтэрв'ю назваў Магілёў «гарадком на ўскрайку Расіі». «Гэты верш Пушкін напісаў супраць супольных нашых ворагаў — Напалеона, Гітлера. Прынамсі, я так зразумеў», — сказаў Сердзюкоў.

Магілёўскі скульптар Андрэй Вараб'ёў крытыкуе бюст не толькі з палітычнага, але і эстэтычнага гледзішча. «Мы ўсе выраслі на Пушкіну. Чаму б помніку і не быць у нашым горадзе. Але мастацкія якасці ўсталяванага бюста вельмі слабыя. Гэта серыйная праца сярэдняй рукі. Згадзіцеся, рэдка нешта добрае аддаюць у падарунак. Некалькі гадоў таму іншы магілёвец, Карней Аляксееў, распрацаваў цудоўны эскіз на помнік Пушкіну, але на яго не знайшлі сродкаў. Палітычны сэнс сённяшняга помніка відавочны. А ў наш наэлектрызаваны час нельга дзейнічаць на раскол грамадства».

Магілёўскія актывісты збіраліся пісаць лісты і збіраць подпісы, каб шыльда з правакацыйным зместам была знятая. «Нават мая настаўніца рускай мовы сказала, што такія помнікі служаць не аб'яднанню, а раз'яднанню грамадства, — кажа кіраўнік Магілёўскага абласнога ТБМ Алег Дзячкоў. — Я здзіўлены, як хутка ўлады зрэагавалі на незадаволенасць».

Сапраўды, не прайшло і тыдня, як шыльда з вершам была дэмантаваная з помніка. З неафіцыйных крыніц даходзіць інфармацыя, што гарадскія чыноўнікі нібыта не давалі дазволу на размяшчэнне верша: узгадняўся толькі сам помнік, а шыльды — гэта ўжо самадзейнасць з расійскага боку.

«Я вельмі паважаю Пушкіна як паэта, — кажа гісторык з Магілёва, член савета рэспублікі Ігар Марзалюк. — Але ёсць радкі, якія ва ўсе часы гучаць правакацыйна. Мне здаецца, што асобныя рускія таварыствы часам пераходзяць усе межы, забываючыся, грамадзянамі якой краіны яны з'яўляюцца. Пра гэта не так даўно казаў Аляксандр Лукашэнка. Думаю, што ў наш казытлівы час не павінна быць месца такім правакацыям».







Дырэктар магілёўскага гістарычнага музея Аляксей Бацюкоў звяртае ўвагу на іншы момант, што гэта ўжо трэці помнік Пушкіну ў Магілёве. «Мне вельмі шкада, што ў нас няма ніводнага помніка ўраджэнцу менавіта нашага горада. А для Пушкіна, як для чалавека, які толькі аднойчы быў у Магілёве, тры помнікі — зашмат. Тым больш такія дужа заідэалагізаваныя, як гэты».

**Зміцер Панкавец**

# Пад Амсціславам быў збіты расійскі беспілотнік

Эксперт: Хутчэй за ўсё, гэта быў беспілотнік «Птэра СМ», збіты беларускай устаноўкай «Ігла».

Позна ўвечары 9 чэрвеня партал *tut.by* паведаміў пра інцыдэнт у Мсціслаўскім раёне Магілёўскай вобласці. Адзін з чытачоў сайта стаў сведкам падзення беспілотніка каля вёскі Картыжы. Ён змог нават сфатаграфаваць лятальны апарат. Паводле відавочцы, ён пабачыў над самалётам успышку, потым пачуў гук як пры салюце, а літаральна праз дзесяць хвілін пасля падзення з'явіліся беларускія вайскоўцы.




Мы запыталіся вайсковага эксперта Аляксандра Алесіна (**на фота**), што гэта магло быць.

«Па акругласці крыла можна прыйсці да высновы, што гэта расійскі беспілотнік «Птэра СМ» (назва, мабыць, пайшла ад птэрадактыля). Такія беспілотнікі маюць салідную далёкасць — 500—800 км. У паветры яны могуць знаходзіцца да шасці-васьмі гадзін, а ўвышыню падымацца — да трох кіламетраў. Такія апараты ёсць у карыстанні расійскага МУС і МНС.

Збіты ж ён быў, найхутчэй, зенітна-ракетным комплексам «Ігла». Справа ў тым, што «Ігла» пераносны, а не гусенічны комплекс. Яго лёгка можна перамяшчаць у аўтамабілі. Ён вельмі мабільны і даставіць яго ў патрэбны пункт не складае цяжкасці.

На мой погляд, гэта магла быць спланаваная аперацыя. Беспілотнік, магчыма, засякалі не першы раз. Таму арганізавалі такую засаду. Асабліва ўлічваючы той факт, што вайскоўцы прыбылі на месца вельмі хутка.

Адкуль з'явіўся гэты беспілотнік? У мяне ёсць некалькі версіі, пачну ад найбольш імавернай да найменш.

Першая версія. З дапамогай беспілотніка «Птэра СМ» расійскі бок сочыць за плынню кантрабанды на беларускай мяжы. Гэта асабліва актуальна пасля таго, як у Расіі сталі дзейнічаць санкцыі на забарону прадуктаў з Еўрапейскага Саюза. Таму ён мог залятаць на беларускую тэрыторыю. Але без узгаднення з беларускім бокам.

Другая версія. Беспілотнік страціў кіраванне і рухаўся аўтаматычна. Такія выпадкі не рэдкія.

Трэцяя версія. Праверка нашай СПА пасля выпадку са шведскім самалёцікам. Але супраць гэтай версіі паказвае тое, што ўсё адбывалася не на палігоне, а на адкрытай мясцовасці.

Ну і, нарэшце, чацвёртая версія, самая малаімаверная. Расійскі беспілотнік выкарыстоўваўся ў шпіёнскай працы. Я лічу гэта найменш імаверным, бо мяжа і так адкрытая, таму прайсці яе і агледзець патрэбныя мясцовасці не складае цяжкасці. Плюс да ўсяго я не памятаю, каб тэрыторыі ўсходняй Магілёўшчыны былі нейкім стратэгічным аб'ектам».

У Міністэрстве абароны пакуль ніяк не каментуюць гэты інцыдэнт. Што таксама падштурхоўвае да думкі, што збіццё ўсё ж было, у адваротным выпадку сілавікі пастараліся б абвергнуць інфармацыю.

**ЗП**

# У аршанскай школе прымалі казакоў з расійскімі сцягамі

Дырэктарка: «Не трэба шукаць тут «ДНР», яны прыехалі ад Віцебскай епархіі».

На сайце аршанскай сярэдняй школы №19 з'явіўся фотарэпартаж аб сустрэчы вучняў і настаўнікаў з прадстаўнікамі арганізацыі «Православный казачий военно-патриотический клуб во имя Архангела Михаила». Адметна, што псеўдаказакі мелі нашыўкі са сцягамі Расіі, а таксама ўручалі дзецям георгіеўскія стужачкі і медалькі ў колеры нацыянальных сцягоў Расіі.



Пасля таго, як сустрэча атрымала шырокі розгалас, інфармацыя пра яе знікла з сайта школы. Каб разабрацца ў сітуацыі, мы патэлефанавалі дырэктарцы школы Людміле Шапавалавай.

«Навучальны год скончыўся, таму навіну выдалілі. Ніякага ціску тут не было. Проста ўжо ўсе, хто хацеў, з навіной азнаёміўся. Гэтак жа будзем рабіць з астатнімі навінамі, праз нейкі час іх выдалім», — тлумачыць яна знікненне навіны.

Як увогуле ацэньвае спн. Шапавалава сустрэчу з «казакамі»? «Нармальна. Да нас яны прыязджалі па лініі праваслаўнага выхавання. Яны прыехалі ад Віцебскай епархіі. Мы дзяліліся досведам», — кажа Людміла Віктараўна.

А ці не бянтэжыць яе наяўнасць у гасцей школы расійскіх сцяжкоў на адзенні? «Ну, гэта ж былі не нацыяналісты. Не шукайце ў гэтым правакацый, не шукайце «ДНР». Праваслаўе аб'ядноўвае ўсе нацыянальнасці. Сустрэча была ўсяго адзін раз і цягнулася нядоўга, усяго тры з паловай гадзіны. А Расія ў нас не забароненая».

Яшчэ адно пытанне: а што за сцяг уздымалі школьнікі і «казакі» падчас сустрэчы — чорна-чырвона-зялёны? «Які чорны? Не было там чорнага — гэта фіялетавы», — адразу выпальвае дырэктарка, аднак потым дадае: маўляў, не ў курсе, што гэта за палотнішча. Вось так, дазваляюць уздымаць сцяг, а што за ён — ні гугу. У інтэрнэце нават з сарказмам пісалі, што гэта магла быць «прэзентацыя сцяга Віцебскай народнай рэспублікі».

«Не трэба тут сутыкаць ілбамі нас, усё ў парадку», — рэзюмавала Людміла Шапавалава.

**ЗП**

# «У нас тут свая Беларусь»

Спецрэпартаж з трэніровачнай базы палка «Азоў» у Кіеве.

Не сакрэт, што ва ўкраінскім канфлікце бяруць удзел беларусы. З боку Кіева самая вялікая дыяспара нашых суайчыннікаў у «Азове». Ажно шэсць беларусаў сталі трэнерамі ў тамтэйшай кузні кадраў — кіеўскай трэніровачнай базе палка. Як яны ўладкаваліся, паглядзеў журналіст «Нашай Нівы».

## Конніца

Трэніровачная база «Азова» знаходзіцца недалёка ад цэнтра Кіева, на тэрыторыі закінутага завода. Сюды прыходзяць людзі, каб праз выпрабаванні патрапіць у шэрагі палка і адправіцца на вайну. Яшчэ з вуліцы чуваць вубухі дзесьці ў глыбіні базы — гэта «азоўцы» адпрацоўваюць каманду «граната».

«Адзін журналіст і пятнаццаць рэкрутаў, прапускаем?» — на ўваходзе ўзброены хлопец з кімсьці кансультуецца па рацыі і дае дабро на ўваход.

За КПП ужо чакае «галоўны» беларус — мінчук Арцём Грот. Тэрыторыя базы вялікая, таму ён прыехаў на машыне.

«На вайне ўжо ўсё іначай, — за стырном пачынае размову Арцём. — Бачыш тых рэкрутаў? Гэта раней можна было проста прыехаць, атрымаць зброю і на наступны ж дзень сядзець у акопе. А цяпер трэба даказаць, што ты варты быць у пяхоце, прайсці наш лагер і пасля яшчэ адзін, на ўсходзе. І толькі потым, можа быць, хтосьці з іх апынецца на фронце».

Развагі Грота прыпыняюцца, калі мы даязджаем да «казармаў». Гэта аднатыпныя вагончыкі-кубрыкі з бляхі, дзе жывуць па шэсць чалавек — унутры ёсць цяпло, святло і інтэрнэт. Над кубрыкам беларусаў лунае бел-чырвона-белы сцяг.

«Нас тут шэсць інструктараў-беларусаў, мы ўсе разам і жывём. Ёсць і яшчэ беларусы на базе, але ў якасці рэкрутаў, таму яны асобна», — кажа Арцём і дадае, што праз выяву «Пагоні» ўкраінцы называюць іх «конніцай».

У кубрыку ўжо сабралася ўся «конніца». Хоць хлопцы пабачылі вайну, старэйшымі за свае гады яны не выглядаюць — усім каля 20. Яны старыя сябры.



20-гадовы Арцём Грот — аўтарытэт у «Азове».


У трэніровачнай базе «Азова» лунаюць толькі сцягі Украіны і Беларусі.

«Мы тут мінскія ўсе, вучыліся разам. Яшчэ за часамі Майдану і першай страляніны на ўсходзе размаўлялі пра гэта, раіліся. Потым прыйшлі да агульнага і вырашылі ваяваць», — за ўсіх аддуваецца Грот. Але пакрысе ў дыялог уступаюць астатнія. Так, хлопец з пазыўным Ваніш кажа, што матывацыя ўзяць у рукі аўтамат у кожнага свая.

«Я, напрыклад, яшчэ гадоў з шаснаццаці пачаў цікавіцца гісторыяй, шмат чытаць. Так стаў нацыяналістам і праз перакананні прыехаў сюды, каб тут ваяваць за Беларусь. Мне здаецца, што калі Крэмль пераможа ва Украіне, то вайна прыйдзе і ў нашу хату. Я гэтага не хачу», — разважае Ваніш.

«А мне было няўзмогу сядзець і глядзець тэлевізар, адчуваючы сябе бескарысным. Разумець, што на канапе нічога не можаш зрабіць, хаця мог бы цяпер сядзець у акопе і адстрэльвацца. Гэта мяне ціснула, ціснула... І ў выніку я паехаў», — кажа Кіт.

Ліцвін ды Ілля салідарныя з сябрамі і выказваюць думку, што навідавоку цыклічнасць гісторыі: Арда ж, маўляў, заўсёды хадзіла на Кіеў і заўсёды ёй давалі адпор.

## Малыя гадамі, але не розумам

Тым часам гадзіннік паказвае трэцюю дня — трэба праводзіць заняткі з рэкрутамі. Хлопцы падымаюцца, і мы кіруемся на вуліцу. Пры выхадзе з кубрыка ў вочы кідаецца запэцканая чымсьці чорным паперка на сценцы. На ёй напісана: «Я — п*дарас, прадаю наркотыкі «Азову».

«Быў тут адзін дзеяч, што наркату пхаў сваім. Яго вылічылі, і Грач крывёю прымушаў яго пісаць тое, што бачыш. Навука астатнім. Хадзем ужо», — тлумачыць хтосьці з беларусаў.

Грач — гэта камандзір базы. Раней беларусы ваявалі ў яго групе, але яна распалася, і Грач стварыў трэніровачны лагер, узяўшы ў якасці інструктараў «конніцу». За час існавання лагера беларускія інструктары выпусцілі ўжо блізу 400 чалавек, двое з іх загінулі. Таксама шмат прыходзіць у лагер беларусаў — адзін хлопец прыехаў у якасці рэкрута літаральна тыдзень таму, як толькі адсвяткаваў дэмбель з беларускага войска.

## Абы-каго не паставяць

«Трапіць у «Азоў» цяжка. Адная толькі паласа перашкодаў пабудаваная па амерыканскай сістэме — не ўсім яна даецца. А яшчэ для паспяховага выпуску трэба засвоіць медыцыну, прабегчы крос 10 кіламетраў, потым два кіламетры з 70-кілаграмовым мехам за спінай, потым, лежачы, працягнуць яго, як параненага, 100 метраў, спусціцца на вяроўцы з будынка і вытрымаць спарынг з інструктарам. Але самае цяжкае для навічкоў — гэта работа ў групах», — расказвае беларус Кіт, пакуль рэкруты з пераменным поспехам пераадольваюць паласу перашкодаў.

Беларусы дазваляюць сабе разважаць аб рэкрутах як аб неабстраляных дзецях. Хоць сярод іх трапляюцца ўжо мужчыны.

«Хоць мне 20 гадоў, напрыклад, але на мне вялізная адказнасць — 10 беларусаў і 80 рэкрутаў. За іх жыццё я адказваю, за зброю. Таксама ў мяне ўжо ёсць дзіцё. Ці кажа гэта аб тым, што я малы? Можа, гадамі, але не розумам, — шчыра дзеліцца Грот і працягвае: — Мы ўжо паваявалі. І больш за тое, наша група рэгулярна ўдзельнічае ў вылазках на ўсходзе. Абы-каго інструктарамі не паставяць, але гэта часткова было і нашае жаданне. Бо сядзець на адным месцы цяжка. А пакуль замірэнне, работы для пяхоты там няма — працуе артылерыя. Таму я падумаў, што тут ад нас будзе больш карысці, чым ад нашага сядзення ў акопах. Патлумачу: нядаўні бой у Мар'інцы, напрыклад. Гэта гледачы тэлеканалаў думаюць, што там цэлы баявік быў. А было ўсё празаічна: «сепары» пайшлі ў атаку, над галовамі нашых праляцелі снарады ўкраінскай «арты», і ўсё — усе «сепары» нежывыя. Такая вайна».

Найбольш запамінальным эпізодам вайны хлопцам здаецца іх начная вылазка ў тыл ворага дзесьці пад Мар'інкай. Тады яны пайшлі ў выведку на замініраваную тэрыторыю, куды не хацелі ісці іншыя групы. Усё прайшло ўдала, толькі што напароліся на светлавую расцяжку і іх абстралялі з мінамётаў. Але абышлося без ахвяр.

## «Сепары» мацнейшыя

Незаўважна час набліжаецца да вячэры, і рэкруты разам з інструктарамі кіруюцца ў «сталовую». Гэта проста пункт раздачы і драўляныя столікі пад адкрытым небам. Да «конніцы» падсаджваецца ўкраінскі інструктар Іваноў. Хлопец цікаўны і сам з захапленнем расказвае пра тое, што беларусаў у «Азове» вельмі цэняць.

«Камандзір выведкі «Азова» — гэта беларус Малюта. Легендарная ўжо асоба. Таксама цяпер на ўсходзе ваюе хлопец з вашых, не памятаю пазыўны. Карацей, ён выбіў сабе на галаве татуіроўку «Тэрор-машына» і наводзіць жах на «сепараў». Хлопцы казалі, што падчас бою ў Шырокіне армія адступала і пакінула боекамплект. Дык калі «Азоў» наступаў, то гэты беларус некалькі тысяч патронаў адзін выстральнуў, адцягваючы на сябе агонь «сепараў», пакуль нашыя іх з бакоў абыходзілі. Потым палонныя казалі, што яны думалі, што там чалавек 10 па іх страляе — так хутка «тэрор-машына» пазіцыі мяняў. Пры гэтым яму гадоў 20, здаецца», — кажа Іваноў.

Геройства геройствам, але што да прагнозаў на вайну, украінскі інструктар не вельмі аптымістычны.

«Аб'ектыўна «сепары» мацнейшыя. Там ужо не данецкія алкаголікі ваююць, а прафесійная армія. Калі мы раней бралі ў палон мясцовых маргіналаў, то ўжо месяцаў шэсць трапляюцца толькі рускія салдаты. У іх выдатная тэхніка і зброя, а мы збольшага ваюем яшчэ савецкім. Пратрымаць абарону ў нас сілы хопіць, але здушыць іх там — наўрад ці. Так што вайна будзе цягнуцца да тых часоў, пакуль рускія не зразумеюць, што іх проста «маюць» іх кіраўнікі, адпраўляючы на забой».


На трэніровачнай паласе перашкод.

**Чым кормяць у «Азове»**

У дзень прыезду карэспандэнта на абед давалі суп з бульбай і грэчку з тушонкай, а на вячэру — грэчку з тушонкай.

Таксама Іваноў кажа, што ў самой Украіне яшчэ няма пэўнасці наконт гэтай вайны.

«Выдатна працуе варожая прапаганда: мая ўласная бабуля, што жыве за 40 кіламетраў ад Кіева, думае, што я нацыст з «Азова», які гвалціць і катуе людзей на Данбасе. Дык якія ж мы нацысты, калі ў нас нават кухарка на раздачы «чорная», калі карыстацца тэрміналогіяй ультраправых! Яе б ужо забілі ці ўкрыжавалі там, не ведаю, будзь мы тымі людзьмі з фантазій расійскіх прапагандыстаў», — кажа хлопец.

Тым часам побач праходзіць шведскі снайпер Майк, за галаву якога сепаратысты абяцаюць мільён даляраў. Ён на ратацыі і пакуль што знаходзіцца на базе ў Кіеве. Майк называе беларусаў «bulbashes» і збольшага тусуецца на курылцы.

«Гэтыя хлопцы прайшлі Ілавайск і Шырокіна, яны ніколі не баяцца. Аднак яны маладыя, і, як усім маладым, ім уласціва рабіць дурныя ўчынкі, шукаць прыгодаў на сваю дупу. Тут я кажу пра неабгрунтаваную рызыку. Але яны сталеюць на маіх вачах, цяжка трэніруюцца. Я перакананы, што калісьці гэтыя хлопцы стануць выдатнымі мужчынамі», — кажа швед пра «конніцу».

### Беларусы ў становішчы нелегалаў

Пакрысе размова заходзіць пра будучыню. Вайна ж некалі павінна скончыцца, і хлопцам давядзецца будаваць новае жыццё.

«Пакуль што мы ўсе ў становішчы нелегалаў. Хтосьці тут паўгода, хтосьці больш. Тэрмін часовага знаходжання ўжо выйшаў, але грамадзянства ці права на жыхарства нам пакуль не даюць. Гэта значыць, што ў самым песімістычным варыянце пасля вайны нас, як сумнеўных людзей з баявым досведам, дэпартуюць проста ў лапы КДБ, але мы не хочам у гэта верыць», — кажуць інструктары «Азова». Але ўсе яны мараць хоць калі-небудзь вярнуцца на радзіму.

«Вось скончым вайну, і я буду жыць ў хаце, якую пастаўлю ў лесе», — мроіць Кіт.

«А я адвучуся і паеду ў Беларусь. Калісьці ж там павінна штосьці змяніцца, хаця надзеі мала», — кажа яшчэ хтосьці і прызнаецца, што яму часта сніцца родны горад.

Дарэчы, праз тое, што на бацькаўшчыне хлопцам пагражае зняволенне, іхнія бацькі самі едзяць у госці да сыноў. І хлопцы пераконваюць, што бацькі супакоіліся пасля таго, як пабачылі, што іх дзеці жывуць не ў такіх ужо і кепскіх умовах. Але ці праўда супакоіліся і засынаюць так жа лёгка, як і іх сыны, што падымаюцца з-за стала і губляюцца ў цемры, ідучы спаць сярод бронікаў і разгрузак?

**Арцём Гарбацэвіч, Кіеў — Мінск**



**На пальчатцы беларуса з «Азова» намаляваныя «калюмны» — старадаўні знак вялікіх князёў Літоўскіх.**

# Чалы: «Без Грэцыі еўра павінна стаць мацнейшым»

Да канца чэрвеня Грэцыя павінна **вярнуць Міжнароднаму валютнаму фонду $1,54 мільярда.**

Аднак гэтых грошай у дзяржавы няма, а новы крэдыт атрымаць не ўдаецца праз адмову ўрада скарачаць заробкі і пенсіі. Апошняя спроба дамовіцца з Еўрасаюзам запланаваная на 18 чэрвеня.

Як будуць далей разгортвацца падзеі і ці магчымы выхад Грэцыі з еўразоны? На пытанні «НН» адказвае незалежны эканаміст Сяргей Чалы.



КРЫСЬ ХІЛЬКО

**«Наша Ніва»: Размовы пра дэфолт Грэцыі ідуць здаўна, але цяпер міністры фінансаў еўрапейскіх краін ўсур'ёз пачалі абмяркоўваць выхад краіны з еўразоны. Гэта рэальнасць ці чарговае папярэджанне-«страшылка»?**

**Сяргей Чалы:** Відавочна, што да выхаду Грэцыі так ці інакш рыхтуюцца... Гэта вельмі даўняя гісторыя. Пасля аб'яднання валют (Грэцыя ўступіла ў еўразону ў 2002-м — **«НН»**) адбыўся масіўны прыток капіталу ў краіну. Гэта павялічвала ўнутраныя цэны, адпаведна раслі заробкі. А пасля сусветнага крызісу 2008 года пачаўся адток, і была страчаная канкурэнтаздольнасць.

У такой сітуацыі Грэцыя, маючы ўласную драхму, магла б праз дэвальвацыю аднавіць канкурэнтаздольнасць, як гэта рэгулярна адбываецца ў Беларусі. Але такой магчымасці не было, бо «адзіная валюта» — гэта фактычна фіксаваны курс. Таму заставаўся адзіны спосаб — змяншаць выдаткі на аплату працы.

Яшчэ адна праблема палягае ў тым, што з праграмы дапамогі Грэцыі дзейнічалі па прынцыпе: давайце дамо яшчэ грошай, каб яны маглі паляпшыць па старых пазыках.

**«НН»: Але нібыта апошнім часам сітуацыя выпраўляецца і доўг насамрэч скарачаўся?**

**СЧ:** Стаяла задача змяншыць яго да аднаснa прымальных велічыняў. Але даўгавая нагрузка вымяраецца не ў абсалютных лічбах, а ў працэнтах да ВУП. Склалася парадаксальная сітуацыя: выкарыстаныя для павелічэння канкурэнтаздольнасці меры — скарачэнне бюджэтных выдаткаў і заробкаў — прывялі да таго, што ВУП падаў хутчэй за доўг. І ў працэнтных суадносінах доўг нават павялічыўся.

**«НН»: І ўсё ж у Грэцыі застаецца шанец для выратавання?**

**СЧ:** Для таго, каб расплачвацца з даўгамі, Грэцыі патрэбны бюджэтны прафіцыт на 3,5—5%. То бок дзяржава павінна траціць істотна менш, чым яна атрымлівае ў выглядзе падаткаў і іншых плацяжоў. Эксперты прыйшлі да меркавання, што гэтая лічба немагчымая. Гэта заб'е эканоміку і пагражае палітычнай стабільнасці. Незадаволенасць насельніцтва можа прывесці да ўлады напаўфашысцкую «Залатую зару» (ультраправая партыя цяпер мае каля 5% у парламенце — **«НН»**).

Пытанне стаіць наступным чынам: альбо крэдыторы пагаджаюцца на частковае спісанне даўгоў, альбо ў Грэцыі не застанецца ніякага выхаду, апроч увядзення сваёй валюты.

**«НН»: Якая верагоднасць гэтых варыянтаў?**

**СЧ:** Ёсць некалькі тэорый наступстваў выхаду Грэцыі з еўразоны. Адна з іх — прынцып слабога звяна. Маўляў, для Еўропы будзе карысна пазбавіцца ад хворых складнікаў.

Іншая — эфект даміно. Правілы выхаду з еўразоны адсутнічаюць, пры падпісанні ні ў кога не маглі ўзнікнуць думкі пра гэта! І ў іншых можа ўзнікнуць спакуса.

**«НН»: Партугалія, Іспанія, хто яшчэ?**

**СЧ:** Нават Італія можа аказацца пад пагрозай. Уся лацінская частка кантынента ў той ці іншай ступені «хворая». Але наколькі я разумею, у Еўропе пануе думка, што трэба трымацца адзінства любой цаной.

**«НН»: А ў самой Грэцыі?**

**СЧ:** Там іншы пункт гледжання. Доўгатэрміновыя выгады ад выхаду з еўразоны могуць пераважыць кароткачасовыя страты. Таму што большасць патэнцыйных праблем — напрыклад, уведзеная драхма згубіць у цане ўдвая, будзе вялікі адток капіталу з банкаў... — і так паступова адбываюцца ў выніку рэформаў.

**«НН»: Пасля з'яўлення негатыўнай інфармацыі пра Грэцыю курс еўра ў адносінах да іншых валют звычайна падаў. А цяпер дзіўнае заціша.**

**СЧ:** Пагаршэнне сітуацыі адбывалася ўсе папярэднія гады. Рух еўра ад 1,4 да 1,1 да даляра шмат у чым і ёсць наступствам гэтага. Таму цяперашнія навіны мала каго здзівяць. Больш за тое, у выпадку выхаду Грэцыі еўра якраз-такі можа вырасці. Чым горшае агульнае знешняе становішча еўразоны, тым слабейшая валюта. Пазбавіўшыся ад слабога месца, еўра павінна стаць мацнейшым.

**«НН» Прагнозы наконт парытэту даляра і еўра яшчэ маюць актуальнасць?**

**СЧ:** Не думаю. Падобна, што некалькі месяцаў таму еўра намацаў дно (каштаваў 1,05 да даляра — «НН»), і рынак адносна супакоіўся. У цяперашняй цане ўжо закладзены сцэнар выхаду Грэцыі.

**Гутарыў Ягор Марціновіч**

# Карэспандэнт НТВ: «Прабачце, што ўдзельнічаў у прапагандысцкім вар'яцтве»

Уласны карэспандэнт НТВ у Германіі Канстанцін Гальдэнцвайг сышоў з тэлеканала «па ўласным жаданні». Гэта адбылося пасля таго, як падчас саміту G-7 у баварскіх Альпах ён даў інтэрв'ю нямецкаму тэлеканалу ZDF.

Як для журналіста расійскага федэральнага тэлеканала Гольдэнцвайг выказваў даволі смелыя думкі. У прыватнасці ён сказаў, што Пуцін хваравіта ўспрыняў незапрашэнне яго на сустрэчу сусветных лідараў. «Ён адчувае сябе абражаным», — сказаў журналіст. «Цынізм Пуціна ўсім вядомы», — аргументаваў расійскі журналіст.

Раскручваць сітуацыю з інтэрв'ю ўзялася пісьменніца і паліттэхнолаг Марына Юдзеніч, якая ў свой час была даверанай асобай Уладзіміра Пуціна, а яшчэ раней прэс-сакратаркай Барыса Ельцына. Фактычна яна адкрыта паставіла пытанне, што такі супрацоўнік павінен быць звольнены з тэлеканала.

Доўга чакаць рэакцыі працадаўцаў Канстанціна Гольдэнцвайга не давялося. Літаральна праз пару дзён ён паведаміў на старонцы ў *facebook*, што пакінуў тэлеканал.

«Па уласным жаданні, даўно (і ўсё ж позна) саспелым, я сыходжу з НТВ, дзе адпрацаваў з перапынкамі 12 гадоў. Дзякуй выдатным калегам, што дапамагалі, вучылі, прабачалі, гадавалі, сябравалі. І сябруюць. Дзякуй тым, хто глядзеў. І прабачце за тое, што апошнім часам удзельнічаў у агульным прапагандысцкім шале. Высновы банальныя, але непазбежныя: здзелкі з уласным сумленнем добрыя толькі тым, што іх усё-ткі можна скасаваць. Як і любы працоўны дагавор, нават самы зручны. Няхай жыве асабістая гігіена, ура!» — пакінуў такі допіс журналіст.

Цікава, што былыя калегі з НТВ развіталіся на сайце з Гольдэнцвайгам арыгінальным чынам: яны зляпілі падборку з самых адыёзных і прапагандысцкіх ролікаў журналіста, назваўшы гэты ролік «Косця, бывай».




**Зміцер Панкавец**

# У Падмаскоўі прызыўнік уключыў гімн Украіны ў ваенкамаце

17-гадовы Улад Калеснікаў з Падольска (Расія) стаў вядомым на ўвесь інтэрнэт.

Зайшоўшы на прызыўную камісію ў ваенкамат, ён уключыў у тэлефоне гімн Украіны. Улада выгналі, а пасля ўручылі два акты: адзін пра тое, што ён мае праблемы са зрокам, а другі — пра «расстройства асобы». Хлопца запісалі ў вар'яты.

Многія прапануюць Уладу пераехаць у Кіеў, але ён не хоча пакідаць Расію.

**Сяргей Гезгала**

# У Маладзечне рабочыя забастоўкай дабіліся выплаты заробку

Завод металаканструкцый спыніў работу 10 чэрвеня, а 12-га на прадпрыемства прыехаў **Сямён Шапіра**.

Некалі паспяховае прадпрыемства дайшло да ручкі: аб'ёмы вытворчасці ўпалі, з'явіліся запазычанасці за электрычнасць, здаралася, што людзі не маглі працаваць проста таму, што ў памяшканнях было адключана святло. Рабочыя атрымлівалі мізэрны заробак, 2—3 мільёны рублёў. Да таго ж апошнім часам яго пастаянна затрымлівалі.

8 чэрвеня цярпенне ў рабочых скончылася, і яны заявілі, што не будуць працаваць, пакуль не атрымаюць грошы. У канцы мая людзям далі толькі частку зарплаты за красавік. Па словах рабочых, праблемы былі і раней, але тады грошы давалі, хоць і па частках. Людзі былі абураныя: ім няма чым плаціць камуналку.

«Да таго дажыліся, што хлеба няма за што купіць! Паўгода ўжо во дзе сядзім! Увайдзіце ў наша становішча!» — казаў немалады рабочы.

Прадстаўнікі кіраўніцтва, якія выйшлі да людзей, патлумачылі, што праблемы звязаныя са зніжэннем вытворчасці. На сёння завод вырабляе амаль утрая менш за запланаваную норму.

«Перспектыва нулявая, — шчыра прызнаў галоўны інжынер. — [Нашай прадукцыі] не хочуць у Расіі. Захоўвайце грошы, якія атрымаеце, толькі на ежу».

«Вы яшчэ атрымаеце адзін заробак у ліпені. Напэўна, прыйдзе новае кіраўніцтва і разрулíць, — паабяцалі рабочым. — А працаваць — «справа сумлення кожнага з вас».

Гэткая заява выклікала рогат у натоўпе.

«А калі вы зараз не пойдзеце працаваць, то зарплаты не будзе ўвогуле», — засцераглі менеджары.



**Маладзечанскі завод металаканструкцый**

Чыстыя страты ў 2014-м — $7,12 мільёна. Колькасць работнікаў — 1263 чалавекі.

В.а. гендырэктара Дзмітрый Купрыянаў паабяцаў з 9 чэрвеня пачаць выдачу зарплаты па частках і разлічыцца з людзьмі да канца тыдня. «З заўтрашняга дня аддаю патрошкі, калі не аддам — кладу заяву [аб звальненні]», — запэўніў ён.

Па словах Купрыянава, увосень маладзечанскі завод будзе задзейнічаны ў будаўніцтве буйнога аб'екта для здабыўной кампаніі «Слаўкалій». Кантракт будзе заключаны «адназначна з перадаплатай», спадзяецца ён. Але прызнае, што многія праекты ўсё роўна замарожаныя праз абвал расійскай эканомікі ў выніку санкцый за агрэсію ва Украіне.

Толькі 10 чэрвеня работнікаў угаварылі вярнуцца да сваіх абавязкаў. Пры гэтым у страйку ўдзельнічалі амаль усе рабочыя (прадстаўнікі адміністрацыі і інжынерна-тэхнічных работнікаў забастоўку не падтрымалі).

11 чэрвеня палову заробку рабочым выплацілі. А 12 чэрвеня, калі завод наведаў старшыня Мінаблвыканкама Сямён Шапіра, людзям выплацілі і рэшту запазычанасці. Па словах рабочых, пасля візіту Шапіры на заводзе пачалася падрабязная праверка дакументацыі.

Гісторыя з затрымкай грошай далёка не ўнікальная. Каля 450 беларускіх прадпрыемстваў маюць запазычанасці па заробках. У краіне падтрымліваецца нізкае беспрацоўе, затое шматлікія прадпрыемствы стаяць ні жывыя ні мёртвыя.

**Улад Швядовіч**

# У Мінску ёсць вакансіі з заробкамі 49—85 мільёнаў

Але на іх шукаюць менеджараў **з інжынернай адукацыяй і веданнем некалькіх замежных моў.**

Міністэрства працы і сацыяльнай абароны назвала самыя высокааплатныя вакансіі краіны.

85 мільёнаў рублёў гатовыя плаціць дырэктару па тэхнічных пытаннях у сталічнай **IT-кампаніі «Нэткрэкербел»**. Сярод патрабаванняў — свабоднае валоданне англійскай і ўкраінскай мовамі.

Кампаніі, якія набіраюць работнікаў, абавязаныя даць аб'яву аб пошуку. Хоць відавочна, што на некаторыя вакансіі з вуліцы не прыйдзеш. Напрыклад, **«Еўрагандальінвестбанк»** шукае... старшыню праўлення. Ён будзе зарабляць 63 мільёны рублёў.

А ў адной з кампаній Кітайска-беларускага індустрыяльнага парка **«Вялікі камень» (Смалявіцкі раён)** спрабуюць знайсці генеральнага дырэктара з досведам працы ў лагістыцы і веданнем кітайскай мовы. Заробак на такой працы — 49 мільёнаў.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Падобныя сумы плаціць і ў **«Белавія»**. Камандзір самалёта можа разлічваць на 45 мільёнаў.

У рэгіёнах заробкі меншыя. Больш за ўсё ва ўсіх абласных цэнтрах прапануюць распрацоўшчыкам мабільных дадаткаў — $3 тысячы.

**У Брэсце і Віцебску** неблагія грошы абяцаюць і прарабу. Апошні павінен займацца будаўніцтвам прыватных драўляных і блочных дамоў і мець досвед такой працы ад 6 гадоў. Заробак складзе ад 15 да 50 мільёнаў (аклад+працэнт ад аб'ектаў).

Да $2 тысяч **у Магілёве** можа зарабіць кіраўнік кол-цэнтра ў кампаніі, якая займаецца інтэрнэт-камерцыяй па ўсёй тэрыторыі СНД, калі рамшчык на стужачнай пілараме.

**У Гомелі** мантажніку вентыляваных фасадаў абяцаюць ад $500 да $2,5 тысяч, а **ў Гродне** ад $500 да $2 тысяч збіраюцца плаціць дызайнеру-кансультанту, які павінен «дапамагаць кліенту ў стварэнні кухні яго мары — і рабіць гэта сумленна, як для сябе».

Усяго ж у агульнарэспубліканскім банку вакансій налічваецца 13,7 тысячы чалавек, у паўтара раза менш, чым летась.

**УШ**

**Конкурс на працу грузчыкам**

У Мінску вакансіі разбіраюць за лічаныя гадзіны. Працадаўцы ладзяць конкурсны адбор нават на грузчыкаў, якім прапануюць 3—4 мільёны рублёў у месяц.

# Хто зарабляе на дзяржаўных закупах у Беларусі

«Ежедневнік» правёў расследаванне: на што, каму і колькі трацяцца грошы з бюджэту і якія прыватныя бізнэсы летась зарабілі на тэндарных таргах больш за ўсіх. Назвы большасці з гэтых кампаній і іх уладальнікі вядомыя вельмі вузкаму колу. Гэта непублічныя бізнэсы, якія працуюць у невялікіх нішах, а часам — толькі па адным прадукце.

Пяць першых кампаній у рэйтынгу — прадаўцы і вытворцы медыцынскага абсталявання і лекавых сродкаў. Лідарам стала кампанія *Tradintek*, зарэгістраваная ў Швейцарыі. За год яна выйграла тэндараў на $37 мільёнаў. Кампанія завозіла магнітна-рэзанансныя і рэнтгенаўскія камп'ютарныя тамографы, а таксама лінейныя паскаральнікі для Міністэрства аховы здароўя. Практычна ўсе пераможцы таргоў па медыцынскім абсталяванні — гэта гандлёвыя кампаніі, пасярэднікі.

Другое месца па аб'ёмах летась дасталася дылерам і вытворцам аўтамабільнай тэхнікі. Бум у сектары забяспечыла Міністэрства ўнутраных спраў, якое пераразмеркавала з бюджэту каласальныя рэсурсы на абнаўленне аўтапарку. Самы вялікі кавалак дастаўся холдынгу «Атлант-М», які прадаў міліцыянтам 120 «Фальксвагенаў Пола». Агулам кампанія атрымала ад дзяржавы $10 мільёнаў.

Трэцяе месца па аб'ёмах закупак у рэйтынгу занялі пастаўшчыкі шроту для хлебакамбінатаў і сельгаспрадпрыемстваў Беларусі. У гэтай нішы працуе каля дзясятка кампаній, найбуйнейшая з якіх, «АГД», мае латвійскія карані.

**Паводле Ej.by**

## Сціслa

**У беларускай прамысловасці — сапраўдны абвал**

У студзені—маі 2015 года прамысловая вытворчасць знізілася ў Беларусі на 7,7% у параўнанні з аналагічным леташнім перыядам, сведчаць звесткі афіцыйнай статыстыкі. У студзені—маі 2015 года аб'ём прамысловай вытворчасці склаў 288,6 трлн рублёў.

**Будаўніцтва другой МКАД будзе весціся кругласуткава**

Адкрыццё руху па першым участку ад Астрашыцкага Гарадка да скрыжавання з аўтадарогай Р28 Мінск — Маладзечна запланавана на верасень. «Акрамя таго, мы вядзём будаўніцтва дарогі Р23 Мінск - Мікашэвічы. Сёлета павінны выйсці да 102 км», — канстатаваў віцэ-прэм'ер Анатоль Калінін.

**Tesla выпусціць Model 3 — «электрамабілі для ўсіх»**

Кампанія Элана Маска *Tesla* прэзентавала лінейку электрамабіляў *Tesla Model 3*, перадае *The Wall Street Journal*. Аўтамабілі з'явяцца ў продажы ў 2017 годзе.

Меркаваная цана — 35 тысяч даляраў. Яна вельмі нізкая ў параўнанні з папярэднімі аўто кампаніі і нават з канкурэнтамі, што дазваляе *Tesla* называць мадэлі «электрамабілямі для ўсіх».

Таксама *Tesla* абяцае развіць серыю зарадных станцый для электрамабіляў. Але ўдакладняе: яны патрэбныя збольшага для далёкіх вандровак — 90% зарадак батарэй, па звестках кампаніі, уладальнікі «Тэслаў» робяць дома ўночы. Таксама адзначаецца падзенне цэнаў на акумулятары.

**Смятана замест грошай**

Работнікам вытворчага цэха «Слонім», што належыць Шчучынскаму масласыраводу, частку зарплаты выдалі смятанай. Кожны атрымаў па 24 баначкі прадукту пад назвай «Пан Мыслівец». Па словах начальства, гэта нармальная практыка для прадпрыемства. Дарэчы, гэтую смятану па невядомай прычыне вярнулі з Расіі, сцвярджаюць рабочыя.

**У Расію ізноў не пусцілі беларускае мяса**

Расельгаснагляд забракаваў прадукцыю мясакамбінатаў Брэста, Барысава і Гомеля. Экспертыза выявіла ДНК птушкі, якая не была ўзгадана вытворцамі на маркіровачных этыкетках.

**300 мільёнаў за «авто.бел»**

Прайшоў першы аўкцыён па продажы назваў сайтаў на кірыліцы. Яго лідарам стаў дамен «авто.бел», які быў прададзены за 315 мільёнаў рублёў. Акрамя яго, на вяршыні спісу назвы «дом.бел» (52 мільёны), «віза.бел» (48 мільёнаў), «бумага.бел» (35 мільёнаў). Грошы, атрыманыя на аўкцыёне, адправяць на дабрачыннасць.

**Пасля 10-й вечара — сухі закон**

Ад 15 чэрвеня сталічныя крамы могуць прадаваць алкаголь толькі з 09.00 да 22.00. Раней раённыя адміністрацыі самастойна прымалі рашэнне аб абмежаванні гандлю па канкрэтных крамах у залежнасці ад крымінагеннай сітуацыі.

**Літовец пабудуе сетку закусачных *Hesburger***

Прадпрымальнік Арунас Пукяліс пабудуе ў Беларусі 30 рэстаранаў сусветнага брэнда рэстаранаў хуткага харчавання *Hesburger*. Літовец інвестуе 6—8 мільёнаў еўра. Першая крама адкрыецца ў жніўні каля станцыі метро «Каменная Горка».

**ЯМ, УШ, АА**

«НН» працягвае серыю артыкулаў аб гарадах-спадарожніках Мінска. **Частка другая** — Лагойск.

# Лагойск — турыстычны горад-спадарожнік



Вясной Мінгарвыканкам зацвердзіў канцэпцыю развіцця гарадоў-спадарожнікаў сталіцы. Паводле яе, а таксама пажаданняў Аляксандра Лукашэнкі аб спыненні інтэнсіўнай забудовы Мінска, да 2030 года больш за 120 тысяч сталічных жыхароў мусяць засяліць 6 гарадоў-спадарожнікаў. Для перспектыўнага развіцця абраныя Смалявічы, Лагойск, Фаніпаль, Дзяржынск, Рудзенск і Заслаўе.

Лагойск, нягледзячы на амаль тысячагадовую гісторыю, самы малады горад сучаснай Беларусі. Гэты статус райцэнтр атрымаў толькі ў 1998 годзе. У канцэпцыі гарадоў-спадарожнікаў яму адводзіцца роля спартыўна-турыстычнага цэнтра. Гэтаму спрыяе маляўнічы ўзгоркавы ландшафт прылеглых тэрыторый, знаходжанне побач двух гарналыжных курортаў і добрыя экалагічныя ўмовы. Багаты Лагойск і на гісторыка-культурную ды рэкрэацыйную інфраструктуру. У горадзе захаваўся старажытны парк Тышкевічаў з фрагментамі палацавага ансамбля, гарадзішча, а праз райцэнтр працякае маляўнічая рака Гайна.





Абмеркаванне генеральнага плана развіцця Лагойска скончылася на грамадскіх слуханнях у мінулым месяцы.

**Лагойск**

Першая ўзгадка — 1078 год (статус горада — з 1998)

Насельніцтва — 12,3 тысячы чалавек (2015)

Планаваная колькасць жыхароў у 2030 годзе — да 19 тысяч

Ад Мінска — 30 км



### Што зменіцца

Паводле дакумента, першы этап развіцця мае скончыцца праз пяць гадоў і закране шматкватэрную і сядзібную забудову. Другі этап будзе ўключаць у сябе развіццё інфраструктуры і ўпарадкаванне ландшафтных тэрыторый.

Планы сапраўды глабальныя. Чакаецца, што ў Лагойску цалкам аднавяць палац Тышкевічаў, прылеглы парк, пад'язную алею і «муры» старажытнага замка. Уздоўж Гайны будзе створана паркавая зона з атракцыёнамі.

Такія маштабныя змены патрэбныя, бо цяперашні стан парку пакідае жадаць лепшага. Будынак стайні палаца Тышкевічаў моцна пашкоджаны і самотна стаіць на водшыбе. На неўладкаванай набярэжнай Гайны жыхароў і гасцей Лагойска сустракае бетонны пірс, які не рамантавалі з савецкіх часоў. Гідралагічная сістэма ў парку таксама патрабуе аднаўлення.

У цэнтры Лагойска сфармаваная малапавярховая гістарычная забудова, таму глабальных зменаў тут не будзе. Толькі ў некаторых месцах чакаецца ўшчыльненне малапавярховай забудовай. А ў дварах шматпавярховікаў павінны з'явіцца новыя паркоўкі і нават падземныя паркінгі.

Большыя змены закрануць прыватны сектар. 144 надзелы трапяць пад рэканструкцыю, а прылеглыя вёскі Зялёны Луг і Цэрхавічы ўвойдуць у гарадскую мяжу. Некаторым новым жыхарам Лагойска можа пашанцаваць: паводле генеральнага плана прадугледжана развіццё сядзібных тэрыторый уздоўж Гайны. Гэта будуць маляўнічыя ўчасткі прыватнага сектара.

### Мікраараён на 3 тысячы жыхароў

Асноўнай жылой забудовай для «новых менчукоў» у Лагойску стане квартал малапавярховай забудовы «Спадарожнік». Ён будзе месціцца ў заходняй частцы Лагойска побач з Віцебскай шашой. Да 2030 года тут плануецца здаць дамы для 3 тысяч чалавек. Жыхары гэтага раёна стануць асноўным «капіталам» будучага горада-спадарожніка. Будаўнічыя работы па ўзвядзенні квартала ўжо пачаліся. Побач месцяцца сучасныя шматпавярховікі цяперашніх лагайчан.

Для ажыўлення транспартнай інфраструктуры Лагойска існуе праект хуткаснай трамвайнай лініі да Мінска. Але пакуль ён не зацікавіў інвестараў, бо кошт гэтага праекта сягае пад $190 мільёнаў. Пакуль жа асноўнай транспартнай артэрыяй для Лагойска, якая злучае яго з Мінскам, з'яўляецца траса М3. Транспартная інфрастрктура Лагойска пакуль не гатовая для імклівага павелічэння колькасці жыхароў. Для развіцця гэтага кірунку плануецца пабудова кальцавой дарогі вакол горада, рэзерваванне ўчастка для пабудовы моста і аб'язной дарогі.

Калі падсумоўваць канцэпцыю развіцця Лагойска як горада-спадарожніка Мінска, то атрымліваецца, што новыя жыхары павінны пераехаць у маляўнічы і кампактны гарадок з выдатнай культурнай і экалагічнай атмасферай. Горад не мае вялікіх прамысловых аб'ектаў ці горадаўтваральнага прадпрыемства. Ён можа стаць цудоўнай альтэрнатывай для жыццця тым, хто жадае пераехаць у ціхі прыгарад непадалёк ад Мінска.

**Сяргей Гудзілін, фота аўтара**









**Першую частку рэпартажу аб гарадах-спадарожніках чытайце ў №20 за 27 мая.**

# Беларускі гідраметэацэнтр: Крым — гэта Украіна. І больш не пішыце нам

У твітар-акаўнце метэаралагічнага партала *meteoinfo.by* быў апублікаваны скрыншот перапіскі адміністрацыі сайта з нейкім Яўгенам Яўгеньевым.

Мужчына папракаў сайт *pogoda.by* у тым, што «спіс гарадоў, прызначаны для пошуку звестак аб надвор'і ў іх, у сувязі з пераходам Крыма ў склад Расіі мае некаторыя неадпаведнасці рэчаіснасці. У прыватнасці, гарады, размешчаныя ў Крыме (Алушта, Гурзуф, Еўпаторыя, Керч, Сакі, Севастопаль, Сімферопаль, Судак, Феадосія, Ялта і інш.), дагэтуль знаходзяцца ў раздзеле «Украіна», хоць у рэальнасці яны мусяць быць перамешчаны ў раздзел «Расія» (па прыналежнасці краіны)».

Аднак кіраўніцтва сайта адказала Яўгену Яўгеньеву, што Сусветная метэаралагічная арганізацыя на сваім сайце паведамляе: гарады, узгаданыя ў лісце, належаць Украіне. «Як толькі статус гэтых метэастанцый зменіцца, мы выправім», — гаворыцца ў лісце.




Скрыншот суправаджае катэгарычны подпіс: «І больш не пішыце нам, а пішыце ў @WMONews».

Інтэрнэт-рэсурсы *pogoda.by* і *meteoinfo.by* належаць Рэспубліканскаму цэнтру па гідраметэаралогіі, кантролі радыеактыўнага забруджвання і маніторынгу навакольнага асяроддзя.

**Яўген Крэйда**

# Беларусаў ва Украіне прымусілі зняць георгіеўскія стужкі

11 чэрвеня на аўтастаянцы каля цэнтральнага рынку ў горадзе Карасцені Жытомірскай вобласці адбыўся інцыдэнт з удзелам беларусаў.

Як піша суполка ў фэйсбуку «Наш Коростень», госці з Беларусі пакінулі там машыны, упрыгожаныя «геогіеўскімі стужкамі».

«Гэта тыя стужкі, якімі сепаратысты на Данбасе ўпрыгожваюць сваю тэхніку, ідэнтыфікуюць сваіх байцоў і ўпрыгожваюць псеўдасцягі. Таму нядзіўна, што яны адразу былі заўважаныя актывістамі горада, якія адразу выклікалі міліцыю і СБУ. А каб беларусы не змаглі на сваіх машынах уцячы, актывісты перакрылі сваімі аўтамабілямі ім выезд.

Міліцыя прыехала досыць аператыўна, афармілі пратакол і правялі з гасцямі Украіны тлумачальную гутарку. Беларусы, якіх заўсёды мы прымалі гасцінна, зрэзалі стужкі дрыготкімі рукамі і паабяцалі, што больш так не будуць», — піша мясцовы рэсурс.

**Лявон Максюта**




# Самая складаная лагічная галаваломка

У 1992-м амерыканскі філосаф Джордж Булас прапанаваў італьянскай газеце *La Repubblica* задачу, апублікаваную пад назвай «Найцяжэйшая лагічная задача свету». З тых часоў ідуць спрэчкі пра аптымальнае рашэнне задачы і яе парадоксы.

*Умовы задачы*

*Ёсць тры багі: бог праўды, бог хлусні, бог выпадковасці. Першы заўсёды кажа праўду, другі — заўсёды няпраўду, трэці можа казаць праўду ці няпраўду ў адвольным парадку. Трэба даведацца, хто бог праўды, хто — хлусні, а хто — выпадковасці, спытаўшы тры пытанні, на якія можа адказаць «так» ці «не». Богі разумеюць вашую мову, але адказваюць толькі «da» і «ja» — невядома, якое слова значыць «так», а якое «не».*

*Кожнае пытанне адрасуецца толькі аднаму богу, богі знаёмыя між сабой. Аднаму і таму ж богу можна задаць больш за адно пытанне (не спытаўшы нічога ў іншага). Пытанні задаюцца адно за адным, наступнае можа залежаць ад адказу на папярэдняе. Нельга задаваць пытанні, адказам на якія можа быць як «так», гэтак і «не», а таксама пытанні, на якія немагчыма даць ніякі адказ.*

* * *

Аўтар прапанаваў шлях рашэння разам з самой задачай, што зробім і мы. Назавём багоў A, B і C. Спачатку паспрабуем вызначыць, хто не бог выпадковасці. Для гэтага можна выкарыстоўваць складаныя пытанні з некалькімі ўмовамі. Напрыклад: «Ці «da» значыць «так» тады і толькі тады, калі ты бог хлусні, а B — бог выпадковасці?» ці «Ці цотная колькасць праўдзівых сцвярджэнняў сярод наступных: ты бог хлусні, «da» значыць «так», B — бог выпадковасці?».

Задачу, як пазней заўважылі, магчыма рашыць, сфармуляваўшы пытанне Q і сказаўшы: «Калі я цябе спытаю Q, ты адкажаш «ja»?». Адказ «ja» як ад бога праўды, так і бога хлусні будзе тады, калі адказ на пытанне Q гэта «так», а «da» — калі адказ на Q гэта «не».

Можна спытаць бога B: «Калі я спытаю цябе, ці A — бог выпадковасці, ці адкажаш ты «ja»?». Калі ён адказвае «ja», гэта прыводзіць да таго, што бог C дакладна не бог выпадковасці, а пры адказе «da» — A дакладна не бог выпадковасці. У таго, хто па выніках пытання дакладна не бог выпадковасці, можна спытаць: «Калі я спытаю цябе, ці ты бог выпадковасці, ты адкажаш «ja»?». Калі ён адкажа «ja», ён бог праўды, а калі «da» — бог хлусні. Апошнім пытаннем, сфармуляваным такім жа чынам, вызначаем, кім ёсць бог B.

**Аляксандр Арсёнаў**

Меркаванне

# Беларусь не Расія,

## сем прынцыповых адрозненняў





Піша **Андрэй Дынько.**

**1. Беларусы працавітыя**

Беларусы займаюць такую зямлю, дзе ніколі не было вялікіх прыродных багаццяў. Не ў крыўду нікому сказана, але акурат гэта развіла ў нас працавітасць, упартасць і нястомнасць, нашы добрыя нацыянальныя рысы.

**2. У нас парадак**

У нас чыста, у нас пакошана, людзі выконваюць законы, «беспредела» нідзе і ніколі не было, нават у ваенныя часы. Павагу да права ў беларусах выхавала прававая дзяржава Вялікае Княства Літоўскае з яе Статутам, напісаным, дарэчы, па-старабеларуску. Дарэчы, трапнасць і распрацаванасць нашай мовы таксама ідуць з тых часоў.

**3. У нас свая мова**

Да XX стагоддзя яна панавала ў людзе, за выняткам тых куткоў краіны, дзе жылі іншыя народы. Пасля перамагла русіфікацыя, але мова ў нас ёсць, і мы яе любім. На ёй створаныя шэдэўры: ад Скарыны да Быкава, Караткевіча і «Песняроў». І яна вяртаецца.

**4. Беларусы шматканфесійныя**

У Беларусі калісьці дамінавала праваслаўе, пасля каталіцтва, пасля была моцная Рэфармацыя, пасля большасць была ўніятамі, пасля зноў праваслаўнымі. Цяпер ёсць і каталікі, і пратэстанты. Мы такія, мы — розныя. Але ўсе мы — карэнныя беларусы.

**5. Мы ўмеем прыстасоўвацца**

Так, гісторыя зрабіла нас гнуткімі. Мы мянялі мовы публічнай сферы, пераходзілі з рэлігіі ў рэлігію, выжывалі пад рознымі ўладамі. Але мы ўжо паўтары тысячы гадоў тут, на адным месцы. Мы гнёмся, але не ломімся. А сваю гнуткасць мы навучыліся ператвараць у эканамічныя перавагі.

**6. У нас свая гісторыя**

Калі Расія далучыла Беларусь, мы сапраўды ўдзельнічалі ў тых самых войнах і перажывалі тыя самыя беды. Але ў нас ёсць і свая непаўторная гісторыя, і вопыт яе перадаўся з пакалення ў пакаленне. У нас былі гордая Рагнеда, свой Сафійскі сабор, мудрыя перамогі пад Грунвальдам і Оршай. Была шляхта, якая не ведала халопства. І былі паўстанні, гераізм людзей тыпу Каліноўскага. Нас ламалі, круцілі, душылі, але мы ёсць.

**7. Мы еўрапейскі народ**

Расія — еўразійская краіна, і геаграфічна, і этнічна. Беларусь — адна з сувымерных еўрапейскіх нацый. Цесна звязаная з Расіяй, але іншая.

# Даказаны антыстрэсавы эфект кафеіну

Прынамсі ў мышэй кафеін эфектыўна **зніжае наступствы стрэсу.**

Партугальскія навукоўцы апісалі блакаванне кафеінам рэцэптараў адэназіну A2A-тыпу ў часопісе *Proceedings of the National Academy of Sciences.* Такім чынам даказанае антыстрэсавае ўздзеянне кафеіну.

Эфект ад кафеіну на арганізм падобны на эфект ад адрэналіну — кава і моцны чай мусілі бы падвышаць стрэс, а не паніжаць. Тым не меней, каваманы адзначалі якраз зніжэнне стрэсу. Магчыма, яны маюць рацыю.

Дзве групы мышэй тры тыдні ўганялі ў сістэматычны непрадказальны стрэс. Адна група, што не атрымлівала кафеіну ў напоях, запавоіла набор масы цела, у мозгу мышэй зніжалася колькасць сінаптычных сувязей, адказных за памяць і навучанне. У гіпакампе адзначалася падвышаная канцэнтрацыя рэцэптараў адэназіну A2A-тыпу. У мышэй, што атрымлівалі каву, нічога з пералічанага не назіралася.

Затым частцы мышэй замест кафеіну прапанавалі «антаганіста» рэцэптараў адэназіну A2A-тыпу, а частцы выдалілі ген, адказны за фармаванне гэтых рэцэптараў. Абедзве групы не паказалі значных наступстваў непрадказальнага стрэсу.

**АА**

# Пляжны адпачынак: колькі што каштуе гэтым летам

Сёлета ў ранейшую Мекку пляжнага адпачынку беларусаў — Крым — ніхто не паедзе. Аднак жаданне правесці адпачынак на моры не знікае. «Наша Ніва» зрабіла падборку самых папулярных кірункаў для адпачынку.

Цэны прыводзяцца з разліку за аднаго чалавека за тыдзень.

**1. Турцыя**

Гэтая краіна стала самым папулярным месцам адпачынку сярод беларусаў. Дзясяткі турфірм засыпаюць сотнямі прапаноў. У сярэднім адпачынак у Турцыі абыдзецца прыкладна ў 7—8 млн за тры, радзей чатыры зоркі. Тур з вылетам з Масквы ці Кіева можна набыць танней. Таксама моцна аншчадзіць можна, набыўшы «гарачы тур». Аднак трэба звяртаць увагу на працягласць тура — за падобныя сумы можна атрымаць і тыдзень, і два адпачынку на моры ў залежнасці ад месца і гатэля. Самыя частыя накірункі турэцкага адпачынку — Аланья, Кушадасы, Кемер, Белек, Сідэ, Анталья. У асноўным «усё ўключана» — канёк пляжнага адпачынку ў Турцыі.

**2. Балгарыя**

Гарачыя туры ў Балгарыю прапаноўваюць ужо за 3,5 мільёны. Аднак больш рэалістычная сума — ад 6,5 млн рублёў за 7 ці 8 начэй у трохзоркавым гатэлі. Трэба адзначыць, што прапановы «усё ўключана» сустракаюцца ў балгарскіх гатэлях нячаста. Асноўныя прапановы турагенцтваў — сняданкі ў гатэлі ці паўпансіён. Ёсць варыянты тураў без уключанага ў кошт харчавання. Ляцець у Балгарыю ў асноўным з Мінска. Але не забудзьцеся, што акрамя аплаты тура спатрэбіцца яшчэ 60 еўра на афармленне шэнгенскай візы.

**3. Егіпет**

Цэны на гарачыя туры ў Егіпет пачынаюцца ўжо ад 4,5 млн рублёў. Аднак большая колькасць тураў ляжыць у цэнавым дыяпазоне ад 6,5 да 7,5—8 млн рублёў. За гэтыя грошы можна правесці 7—10 начэй у 4 ці 5-зоркавым гатэлі. Вядома, «усё ўключана». На жаль, вылятаць у Егіпет, хутчэй за ўсё, давядзецца з Масквы ці Кіева — прапаноў з вылетам з Мінска няшмат. Беларусам для ўезду ў Егіпет патрэбная віза, аднак яе ставяць адразу ў аэрапорце па прылёце. Візавы збор — 25 даляраў.

**4. Італія**

У гэтай краіне пляжны адпачынак можна сумяшчаць з аглядам славутасцяў — у Італіі іх хопіць на некалькі жыццяў. Ды і курортны адпачынак надзвычай разнастайны: можна выбіраць Адрыятычнае, Тырэнскае, Іанічнае мора, кантынентальную Італію, Сіцылію, Сардзінію... Што тычыцца беларускіх тураператараў, большасць з іх гатовая пасláць кліентаў у раён Рыміні — вялізны курорт на паўночным усходзе Італіі. За 9—11-дзённы адпачынак на італьянскіх узбярэжжах прыйдзецца выкласці каля 9—11 мільёнаў ці больш. Пражыванне — у 2—3-зоркавых гатэлях. У цану пуцёўкі звычайна ўключаны сняданкі, радзей прапануецца паўпансіён.

**5. Грэцыя**

Грэцыя са сваімі працяглай берагавой лініяй, сотнямі выспаў і адносна невысокімі цэнамі не перастае прыцягваць турыстаў, якія хочуць плаваць у моры, загараць і смачна есці. За тыдзень адпачынку ў Грэцыі па пуцёўцы беларускага тураператара давядзецца заплаціць 8—10 мільёнаў рублёў. У гэтую суму ўваходзіць пражыванне ў трохзоркавым гатэлі са сняданкамі ці паўпансіёнам. Самыя частыя кірункі — Родас, Крыт, Корфу.



**Пляжы турэцкай Аланьі — самае папулярнае месца для беларусаў.**

**Яўген Крэйда**

## Памерла 40-гадовая спявачка Жанна Фрыске

Некалькі апошніх гадоў расійская поп-дзіва змагалася з пухлінай мозгу.

«Бывай, каханая Жанна ... бывай сябар ... сапраўдны сябар ... я плачу ... у гэта немагчыма паверыць ... гэта жорстка...» — напісаў спявак Філіп Кіркораў.

Жанна Фрыске нарадзілася 8 ліпеня 1974 года ў Маскве. У 1996 годзе яна пачала выступаць у гурце «Блестящие», у 2003 годзе пачала сольную кар'еру. У кіно яна дэбютавала ў 2004 годзе ў фільме Цімура Бекмамбетава па фантастычным рамане Сяргея Лук'яненкі «Начны дазор», у 2005 годзе знялася ў «Дзённым дазоры». Фрыске ўдзельнічала ў такіх тэлепраектах, як «Цырк з зоркамі», «Сэрца Афрыкі», «Імперыя», «Ледніковы перыяд — 2». Таксама яна здымалася для часопісаў *Playboy*, *Penthouse*, *Maxim* і *Elle*.



Яна была замужам за тэлевядоўцам — беларусам Дзмітрыем Шэпелевым.

У 2013 годзе ў яе выявілі неаперабельную пухліну мозга. На лекаванне сабралі мільёны даляраў, аднак грошы не дапамаглі.

**СГ**

## Сэр Крыстафер Лі памёр у 93 гады

Англійскі акцёр сэр Крыстафер Лі памёр у нядзелю, 7 чэрвеня, у шпіталі Чэлсі. У бальніцы ён тры тыдні праходзіў лекаванне ад рэспіраторных праблем і сардэчнай недастатковасці. Яго жонка адклала публічнае абвяшчэнне да таго, пакуль не паведаміць усім родзічам аб смерці мужа.

За 93 гады жыцця сэр Крыстафер Лі выканаў ролі шэрагу культавых злодзеяў: Сарумана ва «Уладары пярсцёнкаў» і «Хобіце» ды графа Дуку ў «Зорных войнах», графа Дракулы, Распуціна ды ворага Джэймса Бонда ў «Чалавеку з залатым пісталетам».

Таксама ён выканаў ролю Шэрлака Холмса ў фільме 1962 года, затым брата Шэрлака ў 1970-м. Агулам яго фільмаграфія налічвае дзве сотні поўнаметражных стужак і шэсць дзясяткаў тэлефільмаў і серыялаў. Роля Сарумана ў «Хобіт. Бітва пяці войскаў» стала адным з апошніх яго з'яўленняў на экране.



**Сэр Крыстафер Лі ў ролі Сарумана ў трылогіі «Хобіт».**

Адметна, што ў 1939 годзе Крыстафер Лі адправіўся добраахвотнікам на фінска-савецкую вайну на баку Фінляндыі.

**Аляксандр Арсёнаў**

## За 175 квадрыльёнаў зімбабвійскіх даляраў дадуць 5 амерыканскіх

Цэнтрабанк Зімбабве абвесціў пра канчатковую адмову ад нацыянальнай валюты — зімбабвійскага даляра. Дэманетызацыя пачнецца 15 чэрвеня і мае завяршыцца 30 верасня. Краіна канчаткова пяройдзе на амерыканскі даляр і іншыя замежныя валюты.

Банкаўскія рахункі ў зімбабвійскіх далярах будуць пераведзены ў даляры ЗША. Калі на рахунку 175 квадрыльёнаў (мільёнаў мільярдаў) зімбабвійскіх даляраў ці менш, будзе выплачана 5 амерыканскіх даляраў.

Калі на рахунку больш за 175 квадрыльёнаў, уладальнікі атрымаюць па даляры ЗША за кожныя 35 квадрыльёнаў зімбабвійскіх даляраў.

Насельніцтва можа здаць наяўныя зімбабвійскія даляры ў банкі. Адзін амерыканскі даляр дадуць за 250 трыльёнаў (тысяч мільярдаў) зімбабвійскіх узору 2009 года альбо за 250 трыльёнаў узору 2008 года.




**Аляксандр Арсёнаў**

Кіно

## Эксперыменты з дыназаўрамі

Свет юрскага перыяду
Жанр: баявік, фантастыка, прыгоды
Рэжысёр: Колін Трэвароу
У ролях: Крыс Прат, Брайс Далас Ховард, Вінсэнт Д'Анофрыа, Нік Дж. Робінсан, Тай Сімпкінс, Амар Сі, Ірфан Кхан
ЗША, 125 хв.
Адзнака: 7

Падзеі адбываюцца праз 22 гады пасля «Парку юрскага перыяду» (1993). На востраве Нублар функцыянуе парк, задуманы Джонам Хэмандам. Але з часоў яго адкрыцця наведвальнасць падае, і кампанія, якая валодае паркам, вырашае адкрыць новы атракцыён, каб прыцягнуць наведнікаў. Генетыкі ствараюць новы від дыназаўра — Індомінус Рэкс, выкарыстаўшы гены раптараў і іншых істот. Падчас наведвання вальера новага дыназаўра Клэр Дырынг, дырэктарка парку, і Оўэн Грэдзі высвятляюць, што той выйшаў надзвычай разумным і ўмее падманваць сістэмы тэрмадатчыкаў. Нечакана высвятляецца, што дыназаўр выбраўся за межы вальера...

Чацвёрты фільм франшызы «Парк юрскага перыяду» (у аснове — аднайменная кніга амерыканскага фантаста Майкла Крайтана) — маштабны праект прадзюсара Стывена Спілберга, які выступаў рэжысёрам першых дзвюх частак. Гэтая стужка павінна была выйсці неўзабаве пасля «Парка юрскага перыяду — 3» (2001), але трапіла ў «вытворчае пекла». Здымкі пачаліся толькі ў красавіку 2014 на Гаваях, сабраўшы зорную каманду акцёраў.

Пры стварэнні цэнтра кіравання паркам быў старанна дасследаваны тэматычны парк студыі *Universal* у Арландзе (Фларыда). Таксама часткова дызайнеры ўзялі за аснову дыспетчарскую *NASA*.

«Велацыраптары — мае любімыя, — сказаў Крыс Прат, выканаўца галоўнай ролі адважнага марпеха і дрэсіроўшчыка невялікіх драпежных дыназаўраў — раптараў. — Я б выбраў сабе самага маленькага, які не зможа мне нашкодзіць».

Падчас праслухоўвання некаторым акцёрам трэба было сядзець і крычаць, прыкідваючыся, што дыназаўр збіраецца іх з'есці. Адной з ідэй для сцэнара фільма былі салдаты, генетычна скрыжаваныя з дыназаўрамі. Гэтая ідэя была прапанаваная яшчэ ў 2004 годзе, але ад яе адмовіліся, замяніўшы новым, генетычна спраектаваным дыназаўрам.




Канцэпцыя «Юрскага перыяду» не змянілася: чалавечнасць у дачыненні да жывых істот змагаецца з карыслівасцю вайскоўцаў і прагай нажывы бізнэсоўцаў. Фільм дае шанец даведацца, як маглі б выглядаць найстаражэйшыя насельнікі Зямлі, але іх выгляду не варта даваць напоўніцу: навуковыя факты скажаюцца дзеля большай відовішчнасці.

**Настасся Уласава**

# ПУП «Страхавы брокер «Страхавая экспертыза плюс»

| | |
|---|---|
| **Уліковы нумар плацельшчыка** | 806000628 |
| **Від эканамічнай дзейнасці** | страхавое пасярэдніцтва |
| **Арганізацыйна-прававая форма** | прыватнае прадпрыемства |
| **Орган кіравання** | юрыдычная асоба без ведамаснага падпарадкавання |
| **Адзінка вымярэння** | млн.руб. |
| **Адрас** | г.Мінск, вул.Ляшчынскага,14, 8 |

## Бухгалтарскі баланс
на 31 снежня 2014 г.

| Актывы | Код радка | На 31 снежня 2014 года |
|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 |
| I. ДОЎГАТЭРМІНОВЫЯ АКТЫВЫ | | |
| РАЗАМ па раздзеле I | 190 | - |
| II. КАРОТКАТЭРМІНОВЫЯ АКТЫВЫ | | |
| Кароткатэрміновая дэбітарская запазычанасць | 250 | 81 |
| Грашовыя сродкі і іх эквіваленты | 270 | 364 |
| РАЗАМ па раздзеле II | 290 | 445 |
| БАЛАНС | 300 | 445 |
| **Уласны капітал і абавязальніцтвы** | **Код радка** | **На 31 снежня 2014 года** |
| Статутны капітал | 410 | 333 |
| Рэзервовы капітал | 440 | 4 |
| Неразмеркаваны прыбытак (непакрытыя выдаткі) | 460 | 51 |
| РАЗАМ па раздзеле III | 490 | 388 |
| V. КАРОТКАТЭРМІНОВЫЯ АБАВЯЗКІ | | |
| Кароткатэрміновыя крэдыты і займы | 610 | 15 |
| Кароткатэрміновая крэдыторская запазычанасць | 630 | 42 |
| У тым ліку: | | |
| пастаўшчыкам, падрадчыкам, выканаўцам | 631 | 14 |
| па падатках і зборах | 633 | 13 |
| па сацыяльным страхаванні і забеспячэнні | 634 | 4 |
| па аплаце працы | 635 | 11 |
| РАЗАМ па раздзеле IV | 690 | 57 |
| БАЛАНС | 700 | 445 |

Кіраўнік В.А. Меркуль
Галоўны бухгалтар В.П. Кухнавец

## СПРАВАЗДАЧА АБ ПРЫБЫТКАХ І ВЫДАТКАХ
за кастрычнік — снежань 2014 г.

| Найменне паказнікаў | Код радка | За кастрычнік—снежань 2014 года |
|---|---|---|
| Выручка ад рэалізацыі прадукцыі, тавараў, работ, паслуг | 010 | 143 |
| Сабекошт рэалізаванай прадукцыі, тавараў, работ, паслуг | 020 | (107) |
| Валавы прыбытак (010 — 020) | 030 | 36 |
| Прыбытак (выдаткі) ад рэалізацыі прадукцыі, тавараў, работ, паслуг (030 — 040 — 050) | 060 | 36 |
| Прыбытак (выдаткі) ад бягучай дзейнасці (± 060 + 070 — 080) | 090 | 36 |
| Прыбыткі па інвестыцыйнай дзейнасці | 100 | 4 |
| У тым ліку: | | |
| працэнты да атрымання | 103 | 4 |
| Выдаткі па інвестыцыйнай дзейнасці | 110 | 4 |
| Прыбыткі па фінансавай дзейнасці | 120 | 23 |
| У тым ліку: | | |
| курсавыя розніцы ад пераліку актываў і абавязкаў | 121 | 23 |
| Выдаткі па фінансавай дзейнасці | 130 | (1) |
| У тым ліку: | | |
| курсавыя розніцы ад пераліку актываў і абавязальніцтваў | 132 | (1) |
| іншыя выдаткі па фінансавай дзейнасці | 133 | — |
| **Найменне паказнікаў** | **Код радка** | **За кастрычнік—снежань 2014 года** |
| 1 | 2 | 3 |
| Прыбытак (выдаткі) ад інвестыцыйнай дзейнасці (100 — 110 + 120 — 130) | 140 | 26 |
| Прыбытак (выдаткі) да падаткаабкладання (± 090 ± 140) | 150 | 62 |
| Падатак на прыбытак | 160 | (11) |
| «Чысты прыбытак (выдаткі) (± 150 — 160 ± 170 ± 180 — 190 — 200)» | 210 | 51 |
| Сукупны прыбытак (выдаткі) (± 210 ± 220 ± 230) | 240 | 51 |

### АЎДЫТАРСКАЕ ЗАКЛЮЧЭННЕ
по бухгалтарскай (фінансавай) справаздачнасці Прыватнага ўнітарнага прадпрыемства «Страхавы брокер «Страхавая экспертыза плюс» за перыяд з 08.10.2014года па 31.12.2014года

Дырэктару ПУП «Страхавы брокер «Страхавая экспертыза плюс»
Меркуль В.А.

Аўдзіраваная асоба: Прыватнае ўнітарнае прадпрыемства «Страхавы брокер «Страхавая экспертыза плюс».
Месцазнаходжанне: Рэспубліка Беларусь, г. Мінск, вул. Ляшчынскага, 14/08.
Звесткі аб дзяржаўнай рэгістрацыі: Зарэгістравана Міністэрствам фінансаў Рэспублікі Беларусь 08.10.2014 года ў Адзіны дзяржаўны рэгістр юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў за № 806000628.
УНП: 806000628
Аўдытарская арганізацыя: Індывідуальны прадпрымальнік Ленкавец Тамара Мікалаеўна.
Месцазнаходжанне: 220019, г. Мінск, вул. Фёдарава, дом 17, корпус 2, кватэра 95.
Звесткі аб дзяржаўнай рэгістрацыі: Пасведчанне выдадзена 27 лютага 2010 г. Мінскім гарвыканкамам, запіс у АДР за № 191341704.
УНП: 191341704.

Я правяла аўдыт прыкладаемай бухгалтарскай (фінансавай) справаздачнасці Прыватнага ўнітарнага прадпрыемства «Страхавы брокер «Страхавая экспертыза плюс», якая складаецца з бухгалтарскага балансу на 31 снежня 2014 года, справаздачы аб прыбытках і стратах, справаздачы аб змене ўласнага капіталу, справаздачы аб руху грашовых сродкаў за год, які скончыўся на пазначаную дату, а таксама заўваг да гадавой бухгалтарскай справаздачнасці.

Кіраўніцтва Прыватнага ўнітарнага прадпрыемства «Страхавы брокер «Страхавая экспертыза плюс» нясе адказнасць за складанне і прадстаўленне бухгалтарскай (фінансавай) справаздачнасці ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь па бухгалтарскім уліку і справаздачнасці.

Дадзеная адказнасць распаўсюджваецца на распрацоўку, укараненне і падтрыманне належнага функцыянавання сістэмы ўнутранага кантролю, якая павінна забяспечваць падрыхтоўку дакладнай бухгалтарскай справаздачнасці, якая не ўтрымлівае істотных скажэнняў у выніку памылак або нядобрасумленных дзеянняў, выбар і прымяненне належнай уліковай палітыкі, а таксама абгрунтаваных ацэначных значэнняў. Я нясу адказнасць за выяўленае мною меркаванне аб дакладнасці бухгалтарскай (фінансавай) справаздачнасці, заснаванае на выніках праведзенага аўдыту.

Я правяла аўдыт у адпаведнасці з патрабаваннямі Закона Рэспублікі Беларусь ад 12 ліпеня 2013 года «Аб аўдытарскай дзейнасці» і нацыянальных правілаў аўдытарскай дзейнасці, якія абавязваюць мяне выконваць нормы прафесійнай этыкі, планаваць і праводзіць аўдыт такім чынам, каб забяспечыць дастатковую ўпэўненасць адносна наяўнасці альбо адсутнасці істотных скажэнняў у прадстаўленай бухгалтарскай (фінансавай) справаздачнасці.

У ходзе аўдыту мною былі выкананы аўдытарскія працэдуры для атрымання аўдытарскіх доказаў, якія пацвярджаюць значэнне і раскрыццё інфармацыі ў бухгалтарскай (фінансавай) справаздачнасці. Выбар аўдытарскіх працэдур ажыццяўляўся на падставе прафесійнага меркавання з улікам ацэнкі рызыкі істотнага скажэння бухгалтарскай (фінансавай) справаздачнасці ў выніку памылак або нядобрасумленных дзеянняў. Пры ацэнцы рызыкі істотнага скажэння бухгалтарскай (фінансавай) справаздачнасці мною разглядалася сістэма ўнутранага кантролю Прыватнага ўнітарнага прадпрыемства «Страхавы брокер «Страхавая экспертыза плюс», неабходная для складання бухгалтарскай (фінансавай) справаздачнасці, якая не ўтрымлівае істотных скажэнняў, з мэтай планіравання далейшых аўдытарскіх працэдур, якія адпавядаюць абставінам аўдыту, але не з мэтай выказвання меркавання адносна эфектыўнасці функцыянавання сістэмы.

Аўдыт таксама ўключаў ацэнку правамернасці ўжыванай уліковай палітыкі, абгрунтаванасці ацэначных значэнняў і агульнага ўтрымання бухгалтарскай (фінансавай) справаздачнасці Прыватнага ўнітарнага прадпрыемства «Страхавы брокер «Страхавая экспертыза плюс».

Я лічу, што ў ходзе аўдыту былі атрыманы дастатковыя і належныя аўдытарскія доказы, якія могуць з'яўляцца падставай для выражэння аўдытарскага меркавання.

На маю думку, бухгалтарская (фінансавая) справаздачнасць Прыватнага ўнітарнага прадпрыемства «Страхавы брокер «Страхавая экспертыза плюс» сфарміравана ў адпаведнасці з патрабаваннямі заканадаўства Рэспублікі Беларусь, дакладна ва ўсіх істотных аспектах адлюстроўвае фінансавае становішча Прыватнага ўнітарнага прадпрыемства «Страхавы брокер «Страхавая экспертыза плюс» на 1 студзеня 2015 года. Вынікі фінансава-гаспадарчай дзейнасці за 2014 год ва ўсіх істотных адносінах адпавядаюць заканадаўству.

Аўдытар які праводзіў аўдыт — індывідуальны прадпрымальнік Ленкавец Т.М.
Дата падпісання аўдытарскага заключэння — 25.05.2015 года.

**www.strahexpert.by/financial-statements/**

# ТАА «Глобал Іншуранс Брокер Ко»

| | |
|---|---|
| **Уліковы нумар плацельшчыка** | 806000485 |
| **Від эканамічнай дзейнасці** | страхавое пасярэдніцтва |
| **Арганізацыйна-прававая форма** | прыватная |
| **Адзінка вымярэння** | млн., руб |
| **Адрас** | г. Мінск, вул. В. Харужай 32а-13 |

## БУХГАЛТАРСКІ БАЛАНС
на студзень—снежань 2014 г.

| Актывы | Код радка | На 31 снежня 2014 года |
|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 |
| I. ДОЎГАТЭРМІНОВЫЯ АКТЫВЫ | | |
| Асноўныя сродкі | 110 | 5 |
| Нематэрыяльныя актывы | 120 | |
| Прыбытковыя ўкладанні ў матэрыяльныя актывы | 130 | — |
| У тым ліку: | | |
| інвестыцыйная нерухомасць | 131 | |
| прадметы фінансавой арэнды (лізінгу) | 132 | |
| іншыя прыбытковыя ўкладанні ў матэрыяльныя актывы | 133 | |
| Укладанні ў доўгатэрміновыя актывы | 140 | |
| Доўгатэрмновыя фінансавыя ўкладанні | 150 | |
| Адкладзеныя падатковыя актывы | 160 | |
| Доўгатэрміновая дэбітарская запазычанасць | 170 | |
| Іншыя доўгатэрміновыя актывы | 180 | |
| РАЗАМ па раздзеле I | 190 | 5 |
| II. КАРОТКАТЭРМІНОВЫЯ АКТЫВЫ | | |
| Запасы | 210 | — |
| У тым ліку: | | |
| матэрыялы | 211 | |
| жывёлы на вырошчванні і адкорме | 212 | |
| незавершаная вытворчасць | 213 | |
| готовая прадукцыя і тавары | 214 | |
| тавары адгружаныя | 215 | |
| іншыя запасы | 216 | |
| Доўгатэрміновыя актывы, прызначаныя для рэалізацыі | 220 | |
| Выдаткі будучых перыядаў | 230 | |
| Падатак на даданую вартасць па набытых таварах, работах, паслугах | 240 | |
| Кароткатэрміновая дэбітарская запазычанасць | 250 | 156 |
| Кароткатэрміновыя фінансавыя ўкладанні | 260 | |
| Грашовыя сродкі і іх эквіваленты | 270 | 360 |
| Іншыя кароткатэрміновыя актывы | 280 | |
| РАЗАМ па раздзеле II | 290 | 516 |
| БАЛАНС | 300 | 521 |
| **Уласны капітал і абавязальніцтвы** | **Код радка** | **На 31 снежня 2014 года** |
| 1 | 2 | 3 |
| III. УЛАСНЫ КАПІТАЛ | | |
| Статутны капітал | 410 | 360 |
| Неаплачаная частка статутнага капітала | 420 | |
| Уласныя акцыі (долі ў статутным капітале) | 430 | |
| Рэзервовы капітал | 440 | |
| Дадатковы капітал | 450 | |
| Неразмеркаваны прыбытак (непакрытыя выдаткі) | 460 | 64 |
| Чысты прыбытак (выдаткі) справаздачнага перыяда | 470 | |
| Мэтавае фінансаванне | 480 | |
| РАЗАМ па раздзеле III | 490 | 424 |
| IV. ДОЎГАТЭРМІНОВЫЯ АБАВЯЗКІ | | |
| Доўгатэрміновыя крэдыты і займы | 510 | |
| Доўгатэрміновыя абавязкі па лізінгавых плацяжах | 520 | |
| Адкладзеныя падаткавыя абавязкі | 530 | |
| Прыбыткі маючых адбыцца перыядаў | 540 | |
| Рэзервы наступных плацяжоў | 550 | |
| Іншыя доўгатэрміновыя абавязкі | 560 | |
| РАЗАМ па раздзелу IV | 590 | - |
| V. КАРОТКАТЭРМІНОВЫЯ АБАВЯЗКІ | | |
| Кароткатэрміновыя крэдыты і займы | 610 | 81 |
| Кароткатэрміновая частка доўгатэрміновых абавязкаў | 620 | |
| Кароткатэрміновая крэдыторская запазычанасць | 630 | 16 |
| У тым ліку: | | |
| пастаўшчыкам, падрадчыкам, выканаўцам | 631 | |
| па авансах атрыманых | 632 | |
| па падатках і зборах | 633 | 1 |
| па сацыяльным страхаванні і забеспячэнні | 634 | 4 |
| па аплаце працы | 635 | 11 |
| па лізінгавых плацяжах | 636 | |
| уласніку маёмасці (заснавальнікам, удзельнікам) | 637 | |
| іншым крэдыторам | 638 | |
| Абавязальніцтвы, прызначаныя для рэалізацыі | 640 | |
| Прыбыткі будучых перыядаў | 650 | |
| Рэзервы маючых адбыцца плацяжоў | 660 | |
| Іншыя кароткатэрміновыя абавязальніцтвы | 670 | |
| РАЗАМ па раздзелу V | 690 | 97 |
| БАЛАНС | 700 | 521 |

Кіраўнік Баравы Д.Ф.
Галоўны бухгалтар Клімашэўская М.Н.

## СПРАВАЗДАЧА АБ ПРЫБЫТКАХ І ВЫДАТКАХ
на студзень—снежань 2014

| Найменне паказнікаў | Код радка | На 31 снежня 2014 года |
|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 |
| Выручка ад рэалізацыі прадукцыі, тавараў, работ, паслуг | 010 | 1 712 |
| Сабекошт рэалізаванай прадукцыі, тавараў, работ, паслуг | 020 | (1 634) |
| Валавы прыбытак (010 — 020) | 030 | 78 |
| Кіраўнічыя выдаткі | 040 | |
| Выдаткі на рэалізацыю | 050 | |
| Прыбытак (выдаткі) ад рэалізацыі прадукцыі, тавараў, работ, паслуг (030 — 040 — 050) | 060 | 78 |
| Іншыя прыбыткі па бягучай дзейнасці | 070 | |
| Іншыя выдаткі па бягучай дзейнасці | 080 | |
| «Прыбытак (выдаткі) ад бягучай дзейнасці | | 78 |
| (± 060 + 070 — 080)» | 090 | — |
| Прыбыткі па інвестыцыйнай дзейнасці | 100 | |
| У тым ліку: | | |
| прыбыткі ад выбыцця асноўных сродкаў, нематэрыяльных актываў і іншых доўгатэрміновых актываў | 101 | |
| прыбыткі ад удзелу ў статутным капітале іншых арганізацый | 102 | |
| працэнты да атрымання | 103 | |
| іншыя прыбыткі па інвестыцыйнай дзейнасці | 104 | — |
| Выдаткі па інвестыцыйнай дзейнасці | 110 | |
| У тым ліку: | | |
| выдаткі ад выбыцця асноўных сродкаў, нематэрыяльных актываў і іншых доўгатэрміновых актываў | 111 | |
| іншыя выдаткі па інвестыцыйнай дзейнасці | 112 | — |
| Прыбыткі па фінансавай дзейнасці | 120 | |
| У тым ліку: | | |
| курсавыя розніцы ад пераліку актываў і абавязкаў | 121 | |
| іншыя прыбыткі па фінансавай дзейнасці | 122 | — |
| Выдаткі па фінансавай дзейнасці | 130 | |
| У тым ліку: | | |
| працэнты да выплаты | 131 | |
| курсавыя розніцы ад пераліку актываў і абавязальніцтваў | 132 | |
| іншыя выдаткі па фінансавай дзейнасці | 133 | |
| **Найменне паказнікаў** | **Код радка** | **За студзень-снежань 2014 года** |
| 1 | 2 | 3 |
| Прыбытак (выдаткі) ад інвестыцыйнай дзейнасці (100 — 110 + 120 — 130) | 140 | — |
| Прыбытак (выдаткі) да падаткаабкладання (± 090 ± 140) | 150 | 78 |
| Падатак на прыбытак | 160 | (14) |
| Змена адкладзеных падаткавых актываў | 170 | |
| Змена адкладзеных падаткавых абавязальніцтваў | 180 | |
| Іншыя падаткі і зборы, якія вылічваюцца з прыбытка (дахода) | 190 | |
| Іншыя плацяжы, якія вылічваюцца з прыбытка (дахода) | 200 | |
| «Чысты прыбытак (выдаткі) | | 64 |
| (± 150 — 160 ± 170 ± 180 — 190 — 200)» | 210 | |
| Вынік ад пераацэнкі доўгатэрміновых актываў, якіне ўключаецца ў чысты прыбытак (выдаткі) | 220 | |
| Вынік ад іншых аперацый, якія не ўключаюцца ў чысты прыбытак (выдаткі) | 230 | 64 |
| Сукупны прыбытак (выдаткі) (±210±220±230) | 240 | |
| Базавы прыбытак (выдаткі) на акцыю | 250 | |
| Разводнены прыбытак (выдаткі) на акцыю | 260 | |

### АЎДЫТАРСКАЕ ЗАКЛЮЧЭННЕ
па бухгалтарскай (фінансавай) справаздачнасці Таварыства з абмежаванай адказнасцю «Глобал Іншуранс Брокер Ко» за перыяд з 1 студзеня па 31 снежня 2014 г.

Аўдзіраваная асоба: Таварыства з абмежаванай адказнасцю «Глобал Іншуранс Брокер Ко», Пасведчанне аб дзярж. рэгістрацыі ў Адзіным дзяржаўным рэгістры юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў за № 806000485, выдадзена 2014/03/04 года на падставе рашэння Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь.
Месцазнаходжанне: 220123, г. Мінск, вул. В. Харужай 32а-13
Аўдытарская арганізацыя: ТДА «ПрофАўдытКансалт». Нумар у АДРЭАІП (УНП): 190681422 ад 29 снежня 2005 года.
Месцазнаходжанне: 220035, г. Мінск, вул. Ціміразева, 67.

Мы правялі аўдыт прыкладаемай бухгалтарскай (фінансавай) справаздачнасці ТАА «Глобал Іншуранс Брокер Ко», якая складаецца з бухгалтарскага балансу на 31 снежня 2014 г., справаздачы аб прыбытках і стратах, справаздачы аб змене ўласнага капіталу, справаздачы аб руху грашовых сродкаў за год, які скончыўся на паказаную дату, а таксама заўваг да бухгалтарскай (фінансавай) справаздачнасці.

**Абавязкі кіраўніцтва аўдзіраванай асобы** па падрыхтоўцы бухгалтарскай (фінансавай) справаздачнасці. Кіраўнік ТАА «Глобал Іншуранс Брокер Ко» нясе адказнасць за складанне і прадстаўленне бухгалтарскай (фінансавай) справаздачнасці ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь па бухгалтарскім уліку і справаздачнасці і арганізацыю сістэмы ўнутранага кантролю, неабходнай для складання бухгалтарскай (фінансавай) справаздачнасці, якая не ўтрымлівае істотных скажэнняў, дапушчаных з прычыны нядобрасумленных дзеянняў або памылак.

**Абавязкі аўдытарскай арганізацыі.** Мы нясем адказнасць за выяўленае намі аўдытарскае меркаванне аб дакладнасці бухгалтарскай (фінансавай) справаздачнасці, заснаванае на выніках праведзенага аўдыту.
Мы правялі аўдыт ў адпаведнасці з патрабаваннямі Закона Рэспублікі Беларусь ад 2013/07/12 г. № 56-З «Аб аўдытарскай дзейнасці» і нацыянальных правілаў аўдытарскай дзейнасці, якія абавязваюць нас выконваць нормы прафесійнай этыкі, планаваць і праводзіць аўдыт такім чынам, каб забяспечыць дастатковую ўпэўненасць адносна наяўнасці альбо адсутнасці істотных скажэнняў у прадстаўленай бухгалтарскай (фінансавай) справаздачнасці.
У ходзе аўдыту намі былі выкананы аўдытарскія працэдуры, накіраваныя на атрыманне аўдытарскіх доказаў, якія пацвярджаюць значэнні паказчыкаў бухгалтарскай (фінансавай) справаздачнасці ТАА «Глобал Іншуранс Брокер Ко», а таксама іншую разгорнутую ў ёй інфармацыю. Выбар аўдытарскіх працэдур ажыццяўляўся на падставе прафесійнага меркавання з улікам ацэнкі рызыкі істотнага скажэнні бухгалтарскай (фінансавай) справаздачнасці ў выніку памылак або нядобрасумленных дзеянняў. Пры ацэнцы рызыкі істотнага скажэння бухгалтарскай (фінансавай) справаздачнасці намі разглядалася сістэма ўнутранага кантролю ТАА «Глобал Іншуранс Брокер Ко», неабходная для складання бухгалтарскай (фінансавай) справаздачнасці, якая не ўтрымлівае істотных скажэнняў з мэтай планавання аўдытарскіх працэдур, адпаведных абставінам аўдыту, але не з мэтай выказвання меркавання адносна эфектыўнасці функцыянавання сістэмы.
Мы лічым, што ў ходзе аўдыту намі былі атрыманы дастатковыя і належныя аўдытарскія доказы, якія могуць з'яўляцца падставай для выражэння аўдытарскага меркавання.

**Аўдытарскае меркаванне**. Бухгалтарская (фінансавая) справаздачнасць ТАА «Глобал Іншуранс Брокер Ко» ва ўсіх істотных аспектах адлюстроўвае яго фінансавае становішча, фінансавыя вынікі яго дзейнасці і змены яго фінансавага становішча (рух грашовых сродкаў) у адпаведнасці з ужыванай асновай складання і прадстаўлення бухгалтарскай (фінансавай) справаздачнасці за 2014 г.
Дырэктар (аўдытар): Г.П. Караў
ТДА «Профаўдытткансалт»: К.А. Кандрацёнка
Дата падпісання аўдытарскага заключэння: 6 красавіка 2015 г.

**www.kasko-online.ru**

# Двухгадовы хлопчык зламаў чэрап на дзіцячым атракцыёне ў Мінску

Дзіцячыя забавы скончыліся **сур'ёзнай траўмай**.

«Нас выпісалі, — паведаміла ў панядзелак Аліна, мама 2-гадовага Даніка. — Дынаміка станоўчая. Сын ужо ходзіць, але каардынацыя ў яго яшчэ парушана. Спадзяюся, што ўсё будзе добра».

Для Даніка і яго мамы гэтая паездка з Мазыра ў Мінск запомніцца надоўга. Аліна вырашыла адвесці сына ў парк забаваў «Дрымлэнд». Але бяскрыўдны атракцыён ледзь не стаў фатальным.

«Мы з сям'ёй прыехалі наведаць «Дрымлэнд» і заапарк — хацелі ўвечары вяртацца назад. У такія лабірынты мы пастаянна ходзім у Мазыры. І Данік іх вельмі любіць. Я была ўпэўнена, што гэта бяспечнае месца для дзіцяці», — прыгадвае той дзень Аліна.



**Вось у гэтым лабірынце хлопчык атрымаў траўму.**

Данік бегаў, а жанчына хадзіла вакол атракцыёна і фатаграфавала сына. На лічаныя секунды адышла, каб пакласці фотаапарат, а як вярнулася, хлопчыка не ўбачыла. І тады пачула плач: ён ляжаў на зямлі. Аліна падхапіла яго і панесла ў медпункт.

«Медсястра сказала: зараз лёд прыкладзём, ён ачуняе і зноў пабяжыць. А я бачу, што яго галава дэфармаваная — правая скроня драпіны. Я настаяла, каб выклікалі хуткую. Нас прывезлі ў РНПЦ нейрахірургіі і неўралогіі. Пасля здымка дактары сказалі, што траўма сур'ёзная — перало лобнай косткі чэрапа са зьмяшчэннем на вочную арбіту, страсенне мазгоў. Была знешняя гематома. Сказалі, што тры дні будуць крытычнымі — калі не з'явіцца ўнутраная гематома, то будзе ўсё добра. На шчасце, не з'явілася».

Аліна мяркуе, што ў сетцы на атракцыёне была дзірка, праз якую сын вываліўся. А пры падзенні мог ударыцца яшчэ і аб трубу, якая не была заматана паралонам. Магчыма, менавіта ад гэтага ўдару і здарыўся пералом.

Дзіцячы атракцыён, на якім хлопчык пацярпеў, уяўляе сабой высокі, абшыты сеткай каркас. Дзеці там бегаюць, поўзаюць, скачуць, караскаюцца па лесвіцы. Бацькоў з імі не пускаюць. За імі сочыць атракцыяніст. Але ці здольны адзін чалавек упільнаваць за кожнага?

«Як хуткая забрала дзіця, я пайшла і спрабавала знайсці тую дзірку. Але не знайшла. І ў той жа час дзеці там працягвалі гуляць. Я тады падняла шум: маўляў, ім аднаго выпадку мала? І затым, калі ішла са сваім сынам, убачыла, што на трэцім узроўні малады чалавек нешта зашываў», — дадае Марына, сястра Аліны.

**«Адпавядае нормам»**

«Быў такі інцыдэнт. Праверка праведзена, тэхнічная служба даследавала дзіцячы комплекс «Лабірынт». Ніхто не бачыў, як хлопчык зваліўся: ні мама, ні яе сястра, ні атракцыяніст. Да атракцыяніста прыменена адміністрацыйнае спагнанне за тое, што яна не ўбачыла, як ён упаў. Але сам комплекс быў дадаткова правераны: ніякіх дзірак, парэзаў — ён цалкам адпавядае нормам, — расказаў начальнік аддзела маркетынгу «Дрымлэнда» Ігар Тарасаў. — Атракцыён у той дзень быў зачынены адразу ж. І на наступны дзень ён ужо працаваў у штатным рэжыме. На ім не знайшлі ніякіх парушэнняў».

Але адміністрацыя не змагла разабрацца, адкуль жа звалілася дзіця. Тарасаў спасылаецца на начальніка тэхнічнай службы. Той мяркуе, што дзіця спатыкнулася і павалілася з перахода паміж другім і першым паверхамі альбо паміж трэцім і другім. І кажа, што парк гатовы аказаць дапамогу сям'і хлопчыка. А падобны выпадак у іх першы.

Аліна пакуль не думала пра кампенсацыю ад парку. Але нейкія грошы спатрэбяцца на рэабілітацыю сыну. Але жанчына хоча разабрацца ва ўсёй гісторыі дэталёва. «Галоўнае, каб яны хібы ліквідавалі — давялі да ладу парк. Каб такога больш не адбылося. Гэта скончылася кепска, але магло яшчэ горш. І не для аднаго дзіцяці».

А хлопчык Данік ад'ехаў дадому. Цяпер яму давядзецца яшчэ працяглы час аднаўляцца. «У яго было закрыта цалкам правае вока — у нядзелю пачаў расплюшчваць. Ужо ўсміхаецца, цікавіцца дзеткамі. Ён усё памятае — акром гэтага страшнага. Маральна, здаецца, аднавіўся. Цяпер трэба, каб аднавіў каардынацыю, каб бегаў як раней. Цяпер я яго толькі адпушчу — ён падае».

**Сяргей Макарэвіч**

# Бацькі пакідалі сваіх немаўлят без догляду, каб тыя памерлі ад голаду

**Страшная гісторыя раскрылася** ў Гомелі.

Спачатку ў калідоры шматкватэрнага дома ў абласным цэнтры знайшлі жывое немаўля. Абышлі суседзяў, ніхто не прызнаў малое. Тады праваахоўнікі пачалі шукаць па-за домам. Маці дзіцяці адшукалі. А разам з ёй тады, у студзені 2015, знайшлі ўжо ў іншым доме муміфікаваны труп немаўляці.

«Следчымі ўстаноўлена, што ў маі 2014 абвінавачаная, гуляючы па вуліцы з дачкой, сустрэлася з біялагічным бацькам дзіцяці, пасля чаго яны адправіліся да яго ў кватэру. Распіўшы спіртное, добра ведаючы пра малалетні ўзрост і бездапаможны стан дзяўчынкі, бацькі наўмысна пакінулі яе адну ў кватэры, упэўненыя, што без кармлення і догляду дзіця памрэ. Замкнуўшы за сабой уваходныя дзверы, абвінавачаныя ў кватэры больш не з'яўляліся», — расказалі ва ўпраўленні Следчага камітэта па Гомельскай вобласці.

Калі цела муміфікаванай дзяўчынкі знайшлі аператыўнікі, жанчына нарадзіла яшчэ адно дзіця. Не жадаючы выхоўваць немаўля, жанчына ў студзені 2015 пакінулі апошняга ў адным з пад'ездаў жылога дома.

Згодна з псіхолага-псіхіятрычнай экспертызай, абвінавачаныя — разам з жанчынай затрымалі і біялагічнага бацьку першага дзіцяці — здольныя ўсведамляць фактычны характар, грамадскую небяспеку сваіх дзеянняў і кіраваць імі. Іх будуць судзіць. Мужчыну за забойства малалетняга пагражае пакаранне ажно да расстрэлу, жанчыне — максімум 25 гадоў калоніі.

**Кастусь Матушыч**

# Другакласнік выратаваў аднакласніцу ад згвалтавання

Школьнік не даў пакрыўдзіць **суседку па парце**.



MVD.GOV.BY

Вучань другога класа сярэдняй школы №6 горада Слуцка Ягор Кур'ян у канцы мая здзейсніў годны ўчынак. Ён вяртаўся са школы са сваёй суседкай па парце. Дарога ішла праз лес. І калі дзяўчынка крыху адстала, на яе накінуўся мужчына. Ён пацягнуў яе ў гушчар. Ягор не ўцёк, а стаў гучна клікаць на дапамогу — на яго крыкі прыбеглі людзі, якія і затрымалі 30-гадовага злачынцу і выклікалі міліцыю. Нападнік быў нападпітку.

Спачатку Ягора на школьнай лінейцы адзначылі супрацоўнікі слуцкай міліцыі — праваахоўнікі падарылі школьніку смартфон. Цяпер ад імя міністра ўнутраных спраў 8-гадовы случчак адзначаны нагрудным знакам «За садзейнічанне».

Нападніку, між іншым, пагражае рэальны турэмны тэрмін — ад 8 да 15 гадоў калоніі. Ён знаходзіцца ў ізалятары. Яго правяраюць на датычнасць да іншых падобных злачынстваў.

**КМ**

## Вышук



**Аўтар скандальнага роліка**

28-гадовы Антон Піеў сышоў з дому ў Мінску 27 мая. Да гэтага часу ніякай інфармацыі пра тое, дзе ён можа быць, няма. Мінчук атрымаў вядомасць пасля таго, як у 2011, праз месяц пасля тэракту ў метро, зняў ролік пра тое, як ён з сябрамі ноччу пабываў на станцыі «Маскоўская», уваход на якую чамусьці не быў зачынены. Хацеў прыцягнуць увагу грамадскасці да праблемы бяспекі. Хто ведае месцазнаходжанне Антона, звяртайцеся на (033) 666-68-56.

## Сцісла

### У аварыі загінула месячная дзяўчынка

Увечары 14 чэрвеня ў Пухавіцкім раёне Мінскай вобласці паблізу вёскі Блонь 27-гадовы праграміст з Мінска за рулём «Пежо» выехаў на паласу сустрэчнага руху і сутыкнуўся з «Фальксвагенам» пад кіраваннем 25-гадовай жанчыны, а потым зачапіў «Сітраен». У «немцы» загінула месячная дзяўчынка, дачка кіроўцы. Яна сама, яе 26-гадовы муж і яшчэ двое дзяцей — аднагадовы хлопчык і месячная дзяўчынка (двайнятка загінулай) — у бальніцы з сур'ёзнымі траўмамі. Хлопчык знаходзіўся на заднім сядзенні «Фальксвагена» ў аўтакрэсле, прышпілены рэменем бяспекі. Дзяўчынкі ляжалі на заднім сядзенні ў здвоенай калысцы — не замацаванай рамянямі.

### Сябрукі скінулі жанчыну з 9 паверха

Цела 32-гадовай знайшлі пад вокнамі дома Мола дзевага мікрараёна ў Светлагорску раніцай 13 чэрвеня. Напярэдадні ўначы падчас сваркі 25-гадовы гаспадар кватэры і яго сябар выкінулі жанчыну з акна 9-га паверха. Заведзена крымінальная справа. Падазраваныя затрыманы.

### Выкрадалі прастытутак

Шасцёра жыхароў Пухавіцкага раёна абвінавачваюць у выкраданні чалавека. Устаноўлена, што маладыя людзі ў групе з іншымі асобамі на працягу 2013—2014 неаднаразова гвалтоўна выкрадалі дзяўчат, якія аказвалі інтымныя паслугі на трасе Мінск—Магілёў, адвозілі іх у лес і гвалтавалі. Ім пагражае да 15 гадоў з канфіскацыяй маёмасці.

### Тапельніца збегла з бальніцы

Адпачываючы ў кампаніі на беразе ракі Піна, 34-гадовая жанчына вырашыла выкупацца і пачала тануць. Непрытомную, яе дасталі з вады і адвезлі ў бальніцу. Выратавальнік яе адкачаў. Але ў жанчыны зноў спынілася дыханне. Пасля паўторнай рэанімацыі яе перадалі брыгадзе хуткай. Але як прывезлі ў бальніцу, яна адтуль збегла.

### Самы вялікі падпольны бровар

Каля вёскі Клапачы ў Маладзечанскім раёне, на закінутым хутары, міліцыянты знайшлі найбуйнейшы ў Мінскай вобласці падпольны самагонны завод. Самагонны апарат паставілі ў хляве ў 300 квадратных метраў.



UVD-MO.GOV.BY

Гаспадар, якога ўжо штрафавалі за самагон, цалкам аўтаматызаваў вытворчасць. Вада падавалася са свідравіны з глыбіні 70 метраў — для гэтага выкарыстоўваліся помпы. Помпамі пераганяліся брага і самагонка. Паколькі электрычнасць да хутара не была падведзена, энергіяй забяспечваў магутны генератар. Выяўлена 12000 літраў брагі.

**КМ**

# Цімох Калачоў: Ідэальна, каб мы з Расіяй былі адной краінай

Лідар зборнай Беларусі па футболе **зняславіўся дурным выказваннем.**




Перад адборачным матчам да чэмпіянату Еўропы паміж нацыянальнымі зборнымі Беларусі і Іспаніі паўабаронца нашай каманды Цімох Калачоў даў інтэрв'ю газеце «Прессбол», якое выклікала шквал негатыўных эмоцый.

Калачоў закрануў далікатную тэму ўзаемаадносін Беларусі і Расіі. Ён сказаў: «Справа не ў кар'еры — заўсёды лічыў Расію роднай і блізкай краінай. Тым больш у мяне тата — беларус, а мама — руская. Так што для мяне наогул адрозненняў няма — адны і тыя ж людзі. І да Расіі стаўлюся выдатна. Увогуле, ідэальна, калі б мы былі адной краінай».

Рэакцыя на гэта была чаканай: як чалавек, які зусім нядаўна выводзіў нацыянальную зборную Беларусі з капітанскай павязкай можа такое гаварыць? Выходзіць, што Калачоў паставіў пад сумнеў нават існаванне нацыянальнай зборнай Беларусі па футболе, якую сам рэпрэзентуе.

Галоўны рэдактар папулярнага сайта *by.tribuna.com* Алег Гаруновіч напісаў: «Я папрашу: не прызначайце Калачова больш капітанам зборнай. Ні пры якіх абставінах. Нават калі з Мартыновічам нешта здарыцца. Цімох мае права на свой пункт гледжання, але быць капітанам галоўнай каманды краіны, якой ён даражыць не ў поўнай меры, права не мае».

Ясна, што на спартыўных форумах адабрэння словы Калачова не знайшлі. Апытанні на ўсё той жа «Трыбуне» і «Прессболе» сведчаць, што пераважная большасць беларускіх заўзятараў негатыўна паставілася да гэтых словаў Калачова (апытанні знаходзяцца побач на старонцы).

34-гадовы Цімафей Калачоў не ўпершыню трапляе ў эпіцэнтр скандалаў. Пасля леташняй гульні з Украінай на «Барысаў-Арэне», калі нашы заўзятары салідарызаваліся з Украінай, спявалі «Ляпіса Трубяцкога», гукалі «Жыве Беларусь» і «Слава Украіне», а таксама праскандавалі славутую песеньку «Пуцін — х...ло», Калачоў сказаў: «Што тычыцца нашых заўзятараў, то калі вы прыйшлі на футбол, то трэба ж сваю каманду гнаць наперад. Можа быць, у нас у канцоўцы і атрымалася б не прайграць. А выкрыкванні ў адрас Расіі — гэта, я лічу, глупствы і няправільныя паводзіны. Ну і футбол — гэта не месца, напэўна, для гэтых рэчаў». Фактычна Калачоў абвесціў заўзятараў аднымі з вінаўнікаў той паразы.

Нарэшце, трэцяе непаважлівае стаўленне Калачова да Беларусі. Журналіст «Савецкага спорту» запытаўся ў Цімафея: «Ці абмянялі б Вы 10 чэмпіёнстваў у Беларусі на 1 Кубак Расіі?» — «Вядома, — адказаў Калачоў, — гэта іншы ўзровень». Апошнія гады Калачоў гуляе ў заштатным расійскім «Растове», па маладосці, калі ён падаваў вялікія надзеі, беларуса набыў данецкі «Шахцёр», але затрымацца ў гэтай камандзе не здолеў.

Самае цікавае адбывалася пасля. Літаральна за суткі да гульні Беларусь — Іспанія, Калачоў таямніча пакінуў стан зборнай. Мабыць, гуру расійскай прапаганды Дзмітрый Кісялёў на гэта сказаў бы: «Супадзенне? Не думаю». Траўмы ў Калачова не было, усё спіхнулі на нейкія загадкавыя сямейныя абставіны. Акалічнасці, якіх не сталі раскрываць ні сам Калачоў, ні трэнер зборнай Хацкевіч. Сапраўды, не верыцца, што Калачова маглі адлічыць са зборнай за гэтыя дурныя выказванні. Але ёсць іншая версія, што сам паўабаронца мог псіхануць, пачытаўшы каментары на сайтах і рэакцыю публікі.

Пакуль Калачоў захоўвае маўчанне, ніяк не каментуючы свае словы аб Расіі, за брата паспрабаваў апраўдацца Дзмітрый Калачоў, які працуе ў структуры магілёўскага «Дняпра». Ён сказаў, што Цімоха няправільна зразумелі і брат вельмі перажывае.

Выказаліся адносна словаў Калачова і некаторыя футбалісты. Напрыклад, былы брамнік зборнай Васіль Хамутоўскі сказаў: «У мяне шмат сяброў у Расіі. Але я лічу, што пакуль мы, беларусы, любім сваю краіну, пакуль мы паважаем і любім сваю вялікую гісторыю, любім нашу мову, то нас будуць паважаць ўсе іншыя дзяржавы, у тым ліку і суседзі. Я лічу, што трэба любіць і паважаць суверэнітэт сваёй краіны».

Сам Калачоў кажа, што гуляць за зборную не адмаўляецца і з радасцю прыме наступнае запрашэнне, калі яно будзе.

**Зміцер Панкавец**

**Апытанне на pressball.by**

**Цімох Калачоў: да Расіі стаўлюся цудоўна. Увогуле, ідэальна, калі б мы былі адной краінай**

| | | |
|---|---|---|
| Падтрымліваю | 25.9% | 1504 |
| Пратэстую | 64.2% | 3729 |
| Не мая справа | 9.9% | 578 |

Усяго прагаласавала 5811.

**Апытанне на by.tribuna.com**

**Як выказванне Калачова паўплывала на Ваша стаўленне да зборнай?**

| | |
|---|---|
| Паўплывала толькі на стаўленне да Калачова | 54% |
| Расхацелася ісці на стадыён | 4% |
| Яшчэ больш палюбіў каманду | 5% |
| Ніяк не паўплывала | 37% |

Усяго прагаласавала 1198.

## У добрай атмасферы: Беларусь — Іспанія — 0:1

Упершыню за доўгі час матч зборнай Беларусі па футболе сабраў аншлаг. Цяжка сказаць, чаго тут было болей: веры ў трэнерскі талент Аляксандра Хацкевіча ці жадання паглядзець на зорных іспанцаў.

Адной з асаблівасцяў гульні стала вялікая колькасць заўзятараў у адзенні з нацыянальнай сімволікай: гэта і вышыванкі, і майкі. Адзін з заўзятараў расказваў, што на першым пункце праверкі яго не прапускалі на стадыён з шалікам з «Пагоняй», але на іншым уваходзе далі дабро. Амапавец толькі папрасіў «надта не махаць шалікам».

Героем сустрэчы з чэмпіёнамі Еўропы быў брамнік Андрэй Гарбуноў, які добра зарэкамендаваў сябе ў грэчаскім чэмпіянаце. Ягоныя шалёныя сэйвы не раз ратавалі беларусаў. Аднак і адзіны ў гульні гол быў забіты якраз пасля памылкі нашага галкіпера. Ужо на апошняй хвіліне першага тайма пірэнейцы падавалі штрафны зусім блізка ад нашай штрафной. Гарбуноў няўпэўнена згуляў на выхадзе, не дацягнуўся да мяча. Такой памылкай скарыстаўся Давід Сілва — 0:1.

Увогуле, гульня зборнай Беларусі не пакінула адчування безнадзейнасці. Хлопцы Хацкевіча ўсё ж не растварыліся на фоне «чырвонай фурыі». Нашы шанцы на трэцяе месца ў групе знізіліся да мінімальных, але яшчэ застаюцца. Галоўныя матчы года пройдуць восенню.

**ЗП**



**Заўзятары зборнай вяртаюцца пасля гульні з Барысава ў Мінск.**

**Фотафакт**



**Жаночая зборная Беларусі па баскетболе бліскуча праводзіць гульні чэмпіянату Еўропы, які праходзіць у Венгрыі і Румыніі. На першым этапе беларускі па чарзе перамаглі Італію, Польшчу, Турцыю (фаварыт групы) і Грэцыю. Прычым усе перамогі, апроч першай, былі вельмі ўпэўненымі, як кажуць, з запасам. Лідарка — 31-гадовая цэнтравая Алена Леўчанка (на фота з мячом). У сярэднім за гульню яна набірае 14 пунктаў і робіць 12 падбораў. Рост у Алены — 195 сантыметраў. А родам яна з Гомеля.**

## Сцісла

### Ганчарэнка ўзначаліў «Урал»

Былы трэнер барысаўскага БАТЭ Віктар Ганчарэнка стаў новым настаўнікам екацярынбургскага «Урала». У апошнім па часе чэмпіянаце Расіі «Урал» фінішаваў 13-м з 16-і каманд. Колькі будзе атрымліваць Ганчарэнка на новай пасадзе, не паведамляецца.

### Гандбалісты едуць на Еўра

Мужская зборная Беларусі па гандболе пасля хатняй перамогі над Літвой (31:24) заваявала пуцёўку на Еўра-2016. У гэтым нашым хлопцам дапамаглі датчане, які выйгралі ў Босніі. Чэмпіянат Еўропы ж пройдзе ў Польшчы.

### У НХЛ самыя моцныя «Чорныя ястрабы» з Чыкага

Скончыўся чаргова розыгрыш Кубка Стэнлі, у якім бяруць удзел наймацнейшыя клубы ЗША і Канады. Сёлета пераможцам стаў клуб «Чыкага Блэкхокз», перамогшы ў фінале «Тампу-Бэй Лайтнінг». Дарэчы, як паведамляюць заакіянскія СМІ, у наступны сезон у НХЛ збіраюцца гуляць беларускія браты Касціцыны, якія дагэтуль выступалі ў Расіі.

### «Манчэстэр Юнайтэд» — самы дарагі футбольны брэнд свету

Англійскі клуб названы самым дарагім футбольным брэндам у свеце паводле даследавання кансалтынгавай кампаніі *Brand Finance*. Летась найдаражэйшым брэндам была мюнхенская «Баварыя». Першая пяцёрка спісу выглядае наступным чынам: «Манчэстэр Юнайтэд» (Англія) — 1,2 млрд даляраў, «Баварыя» (Германія) — 0, 9 млрд, «Рэал» (Іспанія) — 873 млн, «Манчэстэр Сіці» (Англія) — 800 млн, «Чэлсі» (Англія) — 795 млн.

**Іван Шыла, ЗП**

# XII стагоддзе: змаганне за Полацк

## Гісторыя Беларусі. Частка XXXIV

Піша **Алег Дзярновіч**.



### Новая «кіеўская палітыка»

У папярэднім тэксце («НН»№34, 2014) мы сачылі за лёсам князёў полацкай дынастыі, сасланых у 1129 г. у Візантыю, а таксама іх нашчадкаў, якія праз дзесяцігоддзе вярнуліся на зямлю продкаў. Тое выгнанне было спробай кіеўскіх князёў з роду Манамахавічаў пазбавіць Полацкую зямлю незалежнай пазіцыі ў дынастычных і гандлёва-гаспадарчых сувязях.

Але пасля захопу Полацка і высылкі князёў кіеўскія ўлады пераходзяць да новай тактыкі. Бо выслаць ганарыстых нашчадкаў Усяслава Чарадзея было магчыма, але як пасля ўтрымаць пад кантролем іх зямлю і дамагчыся лаяльнасці Полацкага веча? А яго роля паволі мацнела: жыхары Полацка праз свой публічны орган самакіравання ўсё часцей на працягу XII ст. выказвалі палітычныя інтарэсы.

Адным з варыянтаў вырашэнняў супярэчнасцяў, уласцівым для Сярэднявечча, быў дынастычны шлюб. У 1143 г. Усевалад Ольгавіч, які займаў кіеўскі стол, ажаніў сына Святаслава з дачкой полацкага князя Васілька Святаславіча Марыяй. А яго палітычны супернік Ізяслаў Мсціславіч, былы стаўленнік на полацкі пасад у 1130—1132 гадах, а цяпер князь пераяслаўскі, выдаў у 1143 г. дачку за друцкага князя, былога візантыйскага высланца Рагвалода Барысавіча. Такім чынам, праз сістэму шлюбаў князі полацкага княскага дома былі прыцягнутыя да варагуючых лагераў паўднёварускіх князёў.

### Эпоха супярэчнасцяў

Сама Полацкая зямля перыжывала перыяд падзелаў. Тут фармуюцца асобныя галіны княскага дому — спадчыннікаў вотчын. Полацкая воласць у вузкім сэнсе, як і Руская зямля ў Кіеўскай дзяржаве, была асноўвай дзяржаўнай тэрыторыі Полацкага княства і ўжо таму не магла стаць спадчыннай вотчынай ніводнага з князёў, якія займалі полацкі стол. Але полацкае княжанне давала дадатковыя прыбыткі, і таму полацкі стол заставаўся прыцягальным для ўдзельных князёў праз усё XII ст. Іншыя ж воласці, з якіх складалася Полацкая зямля, сталі асновай для ўтварэння вотчынных уладанняў — спадчыннай маёмасці феадалаў, якая ўжо з VIII—IX ст. была пануючай формай землеўладання ў Заходняй Еўропе, што спрыяла развіццю аграрнага плюралізму і, як вынік, паступоваму вызваленню землеўладальнікаў з-пад княскай ці манархічнай улады.

У Полацкай зямлі, апроч сталічнай, мы можам вылучыць наступныя воласці: Менскую, Віцебскую, Друцкую. Ізяслаўскую (Заслаўскую), Лагойскую, Стрэжаўскую і Гарадоцкую. З сацыяльна-прававым статусам валасцей на працягу XII ст. адбываліся важныя змены. Поруч з удзеламі на родавым праве, якія паводле старой «германскай сістэмы» маглі размяркоўвацца ўнутры аднаго роду паміж братамі, пачынаюць з'яўляцца воласці, заснаваныя на феадальным праве — спадчынныя вотчыны. Адной з першых такіх вотчын ужо ў пачатку XII ст стаў Барысаў. Гэтае трывожнае драбленне было адначасова сведчаннем развіцця, павелічэння матэрыяльнага багацця і ўнутранай каланізацыі краю.

Яшчэ адна важная змена, заўважная ў палітычным і сацыяльным жыцці Полаччыны XII ст., — ад 1140-х у справы дзяржавы пачынае актыўна ўмешвацца веча. Прыблізна да 1146 г. полацкім князем заставаўся Васілька Святаславіч. Як мяркуецца, пасля яго смерці на полацкі пасад узышоў Рагвалод Барысавіч. Недзе гэтым жа часам у Менскай воласці ўсталёўваецца сын легендарнага князя Глеба Менскага Расціслаў, што вярнуўся з Візантыі. Але, паводле летапісаў, у 1151 г. Рагвалод Барысавіч быў захоплены палачанамі і пасаджаны ў турму, а на княжанне быў запрошаны Расціслаў Глебавіч. Апроч таго, да ноўгарад-северскага князя Святаслава Ольгавіча полацкае веча накіравала сваіх паслоў, якія прызналі таго сваім «бацькам і заступнікам», фактычна прымаючы яго сюзерэнітэт над Полацкам. Нагадаем, што Святаслаў быў жанаты з Марыяй — дачкой полацкага князя Васількі Святаславіча. Зрэшты, іншых сведчанняў гэтага сюзерэнітэту мы далей не знаходзім.

Скінутага князя Рагвалода Барысавіча трымалі ў Менску «ў вялікай нужы», а ў самой гэтай воласці князем сеў брат новага полацкага князя Расціслава Валадар. У іншыя воласці Полацкай зямлі князь Расціслаў Глебавіч таксама пасадзіў сваіх крэўных — брата Усевалада ў Заслаўі, а сына Глеба ў Друцку. Фактычна князю Расціславу ўдалося аб'яднаць значную частку Полацкай зямлі пад уладай Глебавічаў. Але толькі на некалькі гадоў.

### Вяртанне Рагвалода

Нечакана за Рагвалода Барысавіча заступіўся суздальскі князь Юрый Даўгарукі, паводле ўльтыматыўнага патрабавання якога менскі вязень быў вызвалены. Гэта яшчэ раз сведчыць пра тое, што праз падзелы Полацкая зямля стала даступнай для ціску з боку іншых рускіх князёў.

Рагвалод Барысавіч знайшоў прытулак у Чарнігаве, у князя Святаслава Ольгавіча, хаўрусніка Юрыя Даўгарукага. Там полацкі выгнанец і атрымаў дапамогу, у тым ліку войска. Летапісы паведамляюць, што Рагвалод Барысавіч рушыў спачатку да Слуцка, а потым (1158 г.) на Друцк — сваю былую вотчыну. Ваенная акцыя была папярэдне падрыхтаваная, бо насустрач Рагвалоду Барысавічу з Друцка і Полацка рушылі ягоныя прыхільнікі. Іх колькасць вагаецца ў розных крыніцах — ад 300 чаўноў у Іпацьеўскім летапісе да 300 вояроў у Ніканаўскім і Уваскрасенскім. Другая лічба выглядае больш рэалістычнай. У любым выпадку Рагвалод Барысавіч «выгнаў» з Друцка Глеба Расціславіча, разрабаваўшы яго двор, ды вярнуў сабе ўдзел.

У адказ з Полацка «з усёю брацііяю» выступіў князь Расціслаў Глебавіч. Летапісы даносяць да нас глухія звесткі пра бітву паміж нашчадкамі Усяслава — «бішася крэпка», але потым «памірышася». Але механізм інтрыг і хваляванняў быў ужо запушчаны. У Полацку саспела змова, і пасланнікі баярскай вярхушкі веча прыбылі да Рагвалода Барысавіча, запрашаючы яго на княжанне і абяцаючы яму Расціслава «звязана аддаць».

Расціслаў Глебавіч вымушаны быў пакінуць Полацк і скіраваўся да свайго брата Валадара ў Менск.

Рагвалод Барысавіч не толькі 8 ліпеня 1158 г. зноў заняў полацкі стол, але і зрабіў спробу ўсталяваць кантроль над усёй гістарычнай Полацкай зямлёй. Атрымаўшы дапамогу ад смаленскага князя Расціслава Мсціславіча, новыстары полацкі князь выправіўся ў Менскую зямлю. Чаму была так патрэбная даўнярускім князям вайсковая дапамога? Ваенныя дзеянні вяліся сіламі некалькі сотняў дружыннікаў. Вельмі рэдка маглі збірацца большыя войскі, і таму такія выпадкі абавязкова траплялі на старонкі летапісаў.

Спачатку ж Рагвалод Барысавіч рушыў на Заслаўе, дзе сядзеў Усевалад Глебавіч. Пасля непрацяглай аблогі Усевалад саступіў Рагвалоду горад, а на замену атрымаў Стрэжаў — вось тут у крыніцах першы раз і з'яўляецца гэты ўдзел, але ягонае месцазнаходжанне застаецца дыскусійным. Паводле адной з найбольш верагодных версій, Стрэжаў знаходзіўся каля ўпадзення ракі Свячанка ў возера Стрэжаў (Стрыжаў), дзе цяпер размяшчаецца сяло Стрыжава Бешанковіцкага раёну Віцебскай вобласці. У Заслаўі ж Рагвалод Барысавіч пасадзіў князя з віцебскай лініі Брачыслава Васількавіча.

### Ізноў Літва

У нечым падобны сцэнар паўтарыўся пад Менскам. Рагвалод Барысавіч узяў горад у аблогу. Пасля дзесяцідзённага трывання Расціслаў Глебавіч заключыў мір з Рагвалодам Барысавічам. Трэба адзначыць, што рускія князі пасля хрышчэння Русі рэдка забівалі сваіх праціўнікаў княскага стану. Таксама полацкія Усяславічы захоўвалі жыццё зрынутым кузэнам і, больш за тое, імкнуліся пасля перамогі знаходзіць з імі паразуменне.

Але быў князь, які не мог пагадзіцца з вынікамі супрацьстаяння — Валадар Глебавіч, ужо знаёмы нам раней як бацька дацкай каралевы Сафіі Валадараўны («НН» №20, 2014). Валадар Глебавіч не проста збягае, а скіроўваецца шукаць падтрымку ў суседняй Літве, з якой у Менска ўсталёўваюцца эксклюзіўныя адносіны яшчэ з XI ст. У выніку ў 1159 г. Валадар Глебавіч змог замацавацца ў Гарадцы. Мы не ведаем дакладнай лакалізацыі і гэтага княства-воласці, можам меркаваць толькі, што яно знаходзілася на заходніх рубяжах Менскага ці Заслаўскага княстваў, «пад Літвой», магчыма, гэта сённяшняя вёска Гарадок Маладзечанскага раёна.

У атмасферы рэваншу ўжо Расціслаў Глебавіч у 1160 г. вяртае пад свой кантроль Заслаўе, узяўшы ў палон Рагвалодавых стаўленнікаў Брачыслава Васількавіча і яго брата Валодшу. У адказ Рагвалод Барысавіч здзяйсняе новую выправу на Менск. У дапамогу полацкаму князю даўні хаўруснік Расціслаў Мсціславіч, цяпер ужо князь кіеўскі, даў аддзел торкаў (прычарнаморскіх цюркамоўных качэўнікаў) — 600 вояроў на чале з ваяводам Жыраславам Нязыравічам. Але коні іх падохлі ў лясах, і няясна, наколькі гэты аддзел здолеў дапамагчы Рагвалоду Барысавічу. Сама ж аблога доўжылася шэсць тыдняў. І зноў браты-супернікі знаходзяць паразуменне — заключаецца чарговы мір, з «поруба» вызваляецца Валодша, а з «жалеза» (кайданоў) — Брачыслаў.

Але што рабіць з няўрымслівым Валадаром? У 1162 г. Рагвалод Барысавіч выпраўляецца на Гарадзец. Гэтая вайсковая акцыя стала фатальнай для полацкага князя. Не прыняўшы бою ўдзень, Валадар Глебавіч уначы напаў на стан палачанаў. Праціўнік быў разгромлены. Войска ж Валадара Глебавіча складалася з «літвы». Гэта стала важным знакам — Менск не толькі чэрпаў сілы з Літвы, але і Літва робіцца ўсё больш вырашальнай сілай на абшарах Полацкай зямлі.

Рагвалод Барысавіч бяжыць у Слуцк, а праз тры дні кіруецца ў сваю радавую Друцкую воласць. Полацк жа не гатовы зноў прыняць гэтага князя, бо, як сцвярджае летапіс, «занадта многа загінула палачан». Полацкае веча чарговы раз праяўляе самастойнасць і абірае на княжанне чарговага Усяславіча, гэтым разам з віцебскай лініі — Усяслава Васількавіча. Сам жа Рагвалод Барысавіч, імаверна, да смерці княжыў у Друцку.

### Рагвалодаў камень

Нашыя крыніцы па XII ст. вельмі абмежаваныя. Мы можам яшчэ рэканструяваць калейдаскоп княскіх імёнаў, каб адчуць рытм жыцця тагачасных эліт — жыцця, якое рэдка было аседлым і стабільным. Затое вельмі прыблізна мы можам казаць пра цывілізацыю нашага краю тых часоў. Зусім нешматлікія артэфакты выводзяць нас па-за палітычны дыскурс XII ст. Рагвалод Барысавіч, ужо (ці толькі) князь Друцкі, пакінуў нам напамін пра сябе і клопаты сваёй эпохі.

У 1772 г. расійскія чыноўнікі, якія засвойвалі новыя тэрыторыі, адабраныя ад Рэчы Паспалітай, у раёне вёскі Дзятлава Аршанскага павета трапілі на валун з высечаным шасціканцовым крыжом і надпісам: «В лето 6679 месяца мая в 7 день доспен крест сей. Господі помозі рабу своему Васілію в крещеніі іменем Рогволоду сыну Борісову». Старажытнае слова «даспеці» мае сэнсы «падрыхтаваць», «збудаваць», «паспець». Дату ж з старажытнага візантыйскага летазлічэння можна пералічыць як 1171 г. Подпіс выразна сведчыць пра імя князя, паводле загаду якога быў зроблены сам надпіс, — гэта і ёсць Рагвалод Барысавіч, у хросце Васіль.

Надпісы на камянях пачаў пакідаць яшчэ бацька Рагвалода Барысавіча Рагвалод (Барыс) Усяславіч. Дзеля чаго — не да канца разгадана. Магчыма, так маркіраваліся межы княскіх уладанняў. У свой час даследчык усходнееўрапейскіх старажытнасцяў Барыс Рыбакоў высунуў арыгінальную версію. Гісторык супаставіў даты на камянях з кліматычна-аграрнай сітуацыяй у рэгіёне і прыйшоў да высновы, што ў часы Рагвалода-Барыса адбылося хрысціянскае асвячэнне культавых паганскіх камянёў у спадзяванні на лепшыя ўраджаі. Рагвалод-Васіль пасля галоднай зімы 1170—1171 гадоў асвячаў паганскія камяні ў спадзяванні на ўраджай.

Іншыя эпохі патрабуюць іншыя ўраджаі нянавісці. У 1930-я Рагвалодаў камень быў узарваны, бо нібыта перашкаджаў будаўніцтву шашы Масква—Мінск. Сёння мы маем толькі паменшаную копію каменя, устляваную ў 1998 г. у Оршы.

*Пра веліч духоўнага жыцця Полацкай зямлі ў часы княскіх закалотаў чытайце ў наступным выпуску «Гісторыі Беларусі».*

# Параска і яе чорны бык

Апавяданне. Піша **Святлана Курс**.



*Прысвячаецца Настулі, Марыі і Паліне*

Дом састарэлых і інвалідаў з раніцы гуў вуллём. Па доўгіх калідорах з пупырыстай тынкоўкай бегалі супрацоўніцы, цягаючы за сабою рэха. Жыхароў павыводзілі ў двор, каб не заміналі мыццю і прыхарошванню. З сельсавета праз вуліцу трушком прабегла Канстанцінаўна, цягнучы карціну «Раніца ў сасновым бары». Канторскія бабы палолі клумбы і мялі падворак. З-за плоту, з тэрыторыі сіроцкага дома, на гэтую сумятню пазіралі цікаўныя мордачкі.

— Прэзідэнт прыедзе Параску паздравіць. Ёй сто стукнула ці мо якіх дзевяноста пяць, — сказаў Рыгор, чалавек з нагамі-калодамі. — От маладзец наш прэзідэнт! На мясакамбінаце ў Слуцку быў, панюхаў мяса ў халадзільніку і загадаў дырэктара мясакамбіната замкнуць разам з тым мясам на тыдзень, каб паеў. «Вось, кажа, чым ты простых людзей корміш, тое і сам еш!»

— І паеў? — спужалася маленькая бабулька ў хустачцы ў бобачку.

— Паеў не паеў, але не ў ліхое месца яму. Цяпер пасадзяць і асабняк адбяруць! У яго асабняк на Сямі вятрах, дзе «царскае сяло». Умывальнік з малахіту! Іх бы ўсіх у халадзільнік на дзесяць год, хай тушы ядуць, а потым і адзін аднаго, пакуль каторы не застанецца. От таго выпусціць.

— І чаго ты, Рыгор, такі злосны? Табе і ногі распухлі ад злосці, — сказала яшчэ адна пенсіянерка, спакойная бабуля, якая падчас усяе гэтае мітусні нешта вязала.

— Я распух з работы! Ты б парабіла з маё — і зімой, і летам па калена ў гаўне, вось ногі і распухлі як калоды, хадзіць не магу. Сяджу тут з вамі, старыя карчы, а мне шасцідзесяці няма.

— Піць табе не трэба было і ў сене зімою спаць, то мо б і ногі не распухлі, — разважліва сказала жанчына з вязаннем. — Вунь Парасцы сто лет у абед, а яна яшчэ ходзіць.

У гэты час імянінніца ў белай хустачцы пад бараду сядзела на ложку ў прыбраным пакойчыку. Яе прыбралі, пастрыглі, сфатаграфавалі, папрасілі нічога не рушыць і чакаць візіту. Раўлі ёй на вуха, нібыта глушцу якому. Яна не глухая, а проста старая. А старыя людзі заканчваюць кола — набліжаюцца да таго дня, калі распачалося іхняе жыццё. Гэта нашмат важней і цікавей, чым прыслухоўвацца да пустое сумятні. Вам цікава — вы і бегайце.

Дзень, калі напраўду распачалося яе жыццё, быў вясновым і сонечным. Параска пайшла за хату, каб пашукаць сваю Вечную Цыбуліну. Тая пускала разлапістае пер'е штогод, як сыходзіў снег і капяжы са страхі выкопвалі пры хаце канаўкі. Такой цыбулінай можна і наесціся. Не тое, каб есці не было чаго — дома не бракавала ні малака, ні хлеба. Але ў цыбуліны быў такі салодкі і гаркавы смак вясны, што ад радасці заходзілася сэрца. Жуючы зялёнае пер'е, Параска жмурылася і расплюшчвала вочы так, што сонца то ляцела залатымі капейкамі, то разбівалася ў вясёлкавы пыл. Вясна! Калі цяпер перакінуць праз хату сорак трэсак, то ўлетку знойдзеш сорак гнёздаў. Толькі Параска задумалася, ці не набраць у дрывотні трэсак, як пачула з-пад хаты жаласнае «Міў! Міў! Міў!».

«Зноў Мурка кацянят прывяла куды папала. Казала ж ёй: не раджай кацянят пад хату, пацукі паядуць!» Параска пастанавіла запаўзці пад хату і дастаць кацянят, аднак не сцяміла, што хата за зіму добра абсела, а яна сама падрасла. Падлезшы пад бэлі, Параска мала таго што апынулася ў цемры, дык яшчэ і яе галава і азадак захраслі там, дзе летась праляталі са свістам. Не трэба было есці столькі прасянае кашы. Мачыха, Любка, і так без асаблівае ўцехі пазірала на тое, як Параска вылізвае міску. «Бубубу, жарэ, бубубу, расце, а тут сваім няма чаго даць, пакуль валацуга гэты, сцягака, у людзей па кублах лазіць».

Цяпер валацуга і сцягака — бацька Парасці Пятро — прабухаў па дашчанай сцежцы зусім блізка ад захраслае дачкі. «Тата! Тата!» — хацела крыкнуць малая, але ўзгадала, які люты апошнім часам бываў бацька, як здзёр з яе сукенку і пачаў абхаджваць лейцамі і як яна ўцякала праз вуліцу ў лес, голая. І гэта ж добра, што ліло як з вядра і ніхто яе не бачыў. Пасля Параска ўкрала з плота шкутаванку, закруцілася і так прабралася ў пограб, дзе пераседзела бацькава зло.

Ах, як добра, Парасачка, што ты баялася свайго тату! Праз некалькі хвілінаў па вымашчанай дошкамі сцежцы гурмой забухалі іншыя боты, чорныя, чышчаныя, і ў сенцах нечы голас праказаў:

— Пятро Мажэйка?

— Да. А хто беспакоіт? — голас бацькі быў такі спуджаны, што Параска аж здзівілася.

— Вы арастованы, прайдзёмце ў дом.

— Як арастован, таварыш? Я служу здзесь, вот дакументы, — працягваў бацька, але пачуў толькі адно: «Прайдзёмце».

Ляснулі дзверы, усе прайшлі ў хату, і нейкі час нічога не было чутно. Потым па сцежцы да хаты праляпалі яшчэ адны зрудзелыя знаёмыя боты.

— Дзядзька Несцер! — памкнулася гукнуць дзяўчынка, але тут у хаце загаласіла Любка і завылі блізняты. Параска стаілася.

Праз некаторы час мужчынскія ногі ў ботах і мачышыны ў апорках высыпалі ў двор. Любка енчыла:

— Ну што, ваўкарэзіна паганы, дацягаўся па селішчах? Дамахаўся пісталецікам, што гэта, маўляў, я! Успомні дзетачак на возе, дробненькіх як мак, што ў Салаўкі павезлі з тваё волі? Глянь цяпер на сваіх во — глянь!

Блізняты зноў завылі.

— Любка, прасці, — бубнеў бацька.

— Стойце, хазяева, а дзе Праскоўя Пятроўна Мажэйка? — спытаўся строгі голас.

— У Забалаць пайшла! Па соль! — хуценька адказала мачыха.

— Па якую соль? Яна ж малая.

— Але порсткая, як агонь! Усюды ўлезе.

— Вечна гэтае адроддзе недзе швэндаецца, даўно пара дома быць. Каб прырваўся б зараз, усю б скуру спусціў! — гучна сказаў бацька. (І цішэй:) — На ёй мая першая жонка памерла, таварыш, галава была як цэбар, не праходзіла. Такая гадкая дзеўка, нібыта не свая. Я яе хацеў у дзетдом аддаць.

Памаўчаўшы, чужынец сказаў:

— Несцер Мікалаевіч, пазабоцьцеся даставіць рыбёнка.

— Добра, добра, даставім, — разгублена сказаў дзядзька Несцер.

Тут Параска і зусім раздумала выходзіць. «Гэта мама з-за мяне памерла! Вось чаго мяне татка б'е». Крокі сталі аддаляцца, і Параска засталася ў доўгай цішы.

Невядома, колькі яна праляжала пад хатаю. Святло згасла і ўзышло, Мурка прыпаўзала карміць кацянят. Паміж агрэстам і прызбаю знеслася кура, але як ты датуль дацягнешся. Параска то плакала, то драмала. Сніліся ёй татка з Любкаю і чужы дзядзька з пісталетам. Не, не будзе яна вылазіць, нават калі з голаду счарнее. Няхай спачатку самі прыйдуць і пакрычаць: «Параска! Дзе ты, дачушка?»

Аднак прыйшоў толькі дзядзька Несцер, прычым са старою Кузьміхай, якая мела ў вёсцы мянушку Святая. Калі бацюшку з матушкаю звезлі, Святая адчытвала нябожчыкаў і хрысціла дзяцей.

— Вось вам хата, баба Кузьміха, замест вашае халупы. Як мацеры краснаармейца. Толькі каб я вас больш ля царквы і на могілках не бачыў! Спявайце тут свае псалмы. Ціхенька, каб ніхто не чуў.

— Дзядзька Несцер, — піскнула Параска.

— Авохці мне! Дзе яна?

— Пад хатаю, цётухна, бяжыце па багор.

— Які багор? Гэта ж не тапельца цягнуць.

Параску выцягнулі і пакінулі жыць з Кузьміхою. Несцер неяк уладкаваў так, каб дачку яго сябра, раскулачніка, а цяпер ворага народу, не зачапілі. А можа, улады самі забыліся на дзяўчынку. Тады такое бывала. У лясах, як кацянята, бадзяліся дзеці, чыіх бацькоў звезлі, а самых не заспелі.

«А мо й лепей, каб мяне звезлі, чым тут з карытаў у свіней выядаць», — думала Параска. Вяскоўцы ненавідзелі яе бацьку, нявыказаная думка была такая: «Цягнуў воўк, пацяглі і ваўка». І цяпер усе злацешна і моўчкі пазіралі, як боўтаецца галоднае, абдзёртае «ваўчаня».

Кузьміха таксама мела зуб на Мажэйку, таму Параскі яна не глядзела, але і не выганяла. Дзяўчынцы дазвалялася спаць на ўслоне і есці што застанецца. Праўда, Кузьміха пільнавала, каб не абдзяліць і свінчо. Ну што ж, таксама жыццё. Цыбуліна штогод гнала парасткі, можна было падкрасці яблык і агрэсту, пад хатаю несліся куры. Параска была дома, а дома і сцены ратуюць.

— Цётачка Кузьміха, — сказаў аднойчы Несцер, увайшоўшы ў хату, — гэта ж Парасцы трэба даўно хадзіць у школу.

— У чым? Анучамі і сенам абвязаўшыся? Яе настаўнік выгнаў са школы па першым снезе. Кажа: ідзі дахаты і не вяртайся, пакуль ботаў не купіш. Прыйшла, плачучы. А дзе я ёй боты вазьму? Чытаць-пісаць-лічыць навучылася — і досіць ёй.

— Ну, і ў мяне лішняга няма, трое дзяцей, а рука адна. Параска, хадзем са мной.

Несцер прывёў яе на цялятнік і загадаў падняць спачатку два вядры вады, а потым паўмяха мукі. І хаця рукі калаціліся і плечы дрыжэлі, яна справілася. Гэта быў шанец.

З тых часоў Параска працавала на цялятніку, зарабляла працадні. Да таго ж ёй прызначылі паўпуда свіное мукі ў месяц і час ад часу прэміравалі адрэзам паркалю. Кузьміха падабрэла: Параска з пакідзішча ператварылася ў работніцу й карміцельку. У хляве вяліся свінкі, у куратніку куркі, і ў хаце зноў запанавала простая сялянская сытасць.

У вёсцы з Парасці дзівіліся — яна роўна рабіла мужчынскую і жаночую работу, секла дровы, цягала мяхі, рэзала цялят нетрапяткой рукою, касіла; рашуча, як дзік, узрывала немаленькі гарод, не трацячыся на каня. Сям'я яе згінула і патроху забылася, злосць у людзей прайшла. Парасцы было чатырнаццаць, калі прыбылі першыя сваты. Здалёк, жно за паўсотні вёрст. Але Кузьміха іх абсмяяла, адправіла да Крывога Язэпа на той канец: там тры дачкі толькі з люлькі выпаўзлі.

— Дзетка, — сказала Кузьміха, адправіўшы першы паязд, — замуж не спяшай. Ты работніца, яны к табе будуць соўгацца табунамі. Запрагуць, і пацягнеш воз, чужую гаспадарку, не прадыхнеш, вачэй не падымеш. І раджаць будзеш кожны год, як Мурка. Сядзі ўжо са мной, што табе, кепска?

Кепска не было, было спакойна і сыта. Параска вырасла ў высокую дзяўчыну з чыстым белым тварам, худым і спакойным. Нос вялікі, вочы шэрыя. Валасы таксама шэрыя, папялястыя, роўныя, шаўковыя. Абразала іх Кузьміха авечымі нажніцамі да сярэдзіны шыі. Гэтыя бліскучыя, пакорлівыя валасы ладна ляжалі пад прыгожым чарапахавым грабянцом. Грабянец быў «з нехарошых рук» — належаў некалі старой пані Зубрыцкай і быў зрабаваны з панскага дома. Але што ж рабіць — адзіная памятка па п'яным прыступе бацькоўскай пяшчоты. «У каго бацька бандзіт, у таго і спадчына бандзіцкая», — прыгаворвала Кузьміха.

Броніка Мятлушку Параска ўпершыню ўбачыла ў пыльны і сонечны красавіцкі дзень. Ранкам Несцер сказаў, што з МТС прыгоняць трактар і ёй трэба будзе стаць на сеялку, бо рукі ў яе вялікія, заграбушчыя, і за работаю яна не спіць. Калі Параска прыйшла ва ўрочышча, яна спачатку ўбачыла хмару пылу і пачула рокат, а потым з хмары вынырнуў ён — трактар. Высакародны і шыракагруды, як чорны бык, ён нёсся да яе, рыючы і адкідаючы заднімі коламі зямлю. Спераду на мыску чырвоная латка, а за высокім рулём — белазубы хлопец у кепачцы.

Бронік Мятлушка паходзіў з фальварка Краснае Возера і быў тыповы тамтэйшы шляхцюк — добра ўбраны, чысты, гладкі, зграбны, з тонкімі чорнымі вусікамі. Не мяшок і не хамуйла. Параска цалкам прапала. Цэлымі днямі пылілі яны з Бронікам па раллі, ён араў, яна стаяла на сеялцы, шчаслівая, сама не свая. Насіла яму сціплыя полудні — малако ў гарнушку, сала, яйкі, цыбулю. Часцей спынялася ля ўмазанага ў печку люстэрка. Кузьміха толькі галавой ківала:

— Дурніца ты, дурніца, яны на мужычках не жэняцца. Мала там што — савецкая ўласць, не савецкая — але каб Вярыгі ці Мятлушкі

каго з сяла ўзялі? Не будзе такога. На сене коўзацца — калі ласка, але каб замуж? Ці ты мо байстручка захацела?

Памылялася старая Кузьміха. Бронік вучыў Параску кіраваць трактарам і расказваў, што гэта прыгожая машына перароблена з амерыканскай, але ў нас яе яшчэ палепшылі. Выпівае такі трактар 30 літраў керасіну і працуе цэлы дзень, ды так, што ўсе коні на яго месцы падохлі б.

Паміж маладымі было ўжо ўсё дамоўлена — яны паедуць у Харкаў, дзе ў Броніка на заводзе дзядзька.

Параска пайшла прасіць даведку ў Несцера. А мо і пашпарт ёй можна справіць?

— Параска, — сказаў той, — ты памятаеш, хто твой бацька? Пра цябе забыліся, а ты хочаш сама ім у рукі ўлезці? Бацька твой недзе без права перапіскі, Любка з малымі ў Казахстане. І ты туды хочаш варголы піць? Не даюць калхознікам ніякага пашпарта. Ідзі з вачэй маіх. А дарагому скажы, што як зноў будзе брахаць пра амерыканскі трактар, то яму галаву звернуць разам з чубам харошым. Гэта савецкі трактар!

— Я ўцяку, і ніхто мяне не знойдзе, у горад паеду, — плачучы, сказала Параска.

Несцер абняў яе адзінаю рукою і прыціснуў да грудзей.

— Знойдуць і застрэляць, дачушка. Сядзі тут, як мыш пад венікам.

Бронік з'ехаў адзін, спачатку пісаў лісты, а потым і зусім прапаў. Праз нейкі час разнеслася чутка, што яго «прыбралі за шкодніцтва». Нібыта псаваў трактары і шпіёніў на Амерыку. Згінуў Бронік недзе тамсама, дзе Пятро, Любка і Парасчыны малыя браты.

А Параска выпрасілася-такі ў Несцера, хаця і недалёка: перайшла ў МТС да трактароў. Навучылася пра машыны ўсяго-ўсяго, разбірала іх на друзачкі і гаечкі, ездзіла, як царыца, на чорных быках, увесь раён пераарала. А трактар, на якім ездзіў Ён, назвала Бронікам.

Потым і на дошку гонару яе павесілі. Кузьміха нават не паленавалася і схадзіла паглядзець.

— Ты там як абязьяна, — сказала па вяртанні Парасцы, якая замешвала свінням. — Шчокі запалі, нос тырчыць, усё ліцо ў маршчынах. Куды ты столькі працуеш, хто табе дзякуй скажа? Працадзень — не пад'есць і авадзень! Сябе глядзі. Табе час ужо і пра замуж падумаць, не век жа табе са старой жыць.

Пра замуж не думалася. Параска раўняла хлопцаў з Бронікам, і роўных яму не было. Восем класаў адукацыі, спраўны, харошы як майскі дзень Бронічак. Па начах Параска ўжо і шкадавала, што не дазволіла яму таго-сяго. «Быў бы ў мяне цяпер байстручок, харошы, прыгожы. Байстручкі ўсе прыгожыя. І каму б я ганьбы дала? Адна, як пень пры дарозе».

Але ў глыбіні душы Параска ведала, што спакою ёй не далі б. Пачалі б зноў поедам есці, як тады за бацьку. У суседняй вёсцы дзяўчына з завода вярнулася з дзіцем, дык хлопцы з вёскі прыйшлі да яе дахаты, патушылі святло, паваліілі, сталі кругам і абасцалі. Сабралася бедалага і паехала з байстручком у свет.

Тым годам у цёмныя восеньскія ночы пад яе вокнамі пачаў хадзіць Ціхан, па-вулічнаму Буханка. Ніхто за яго ісці не хацеў, бо меў ён горбік, нібыта бохан на плячах насіў. Буханка прыцёгваўся на поле, у мехдвор, на вячоркі, куды яна ні пойдзе — ценем цягнецца.

Што за абраза мець такога кавалера пасля Броніка! І ганяла яна яго, і абражала, і на людзях ганіла, каб адчапіўся. Але Буханка не здаваўся. Пасля па сяле розныя чуткі хадзілі, але зводзіліся яны да аднаго: як Параска малаціла жыта ў гумне, адна, Буханка падышоў ззаду, ударыў нечым па галаве і згвалціў. Дзецца ёй не было куды — увесну сыгралі вяселле.

Потым яна нікому не магла растлумачыць, чаму такая крэпкая дзеўка, працавітая, рукастая, самастойная, паддалася нейкаму Буханку, апошняй затычцы ў возе. Між тым жыццё Парасці замужам моцна нагадвала яе дзяцінства з бацькам. Толькі цяпераka яе лупцаваў муж. Прыступы лютасці ў Ціхана змяняліся прыступамі такой жа шалёнай пяшчоты, ён кахаў Параску па-сапраўднаму, як мог, як умеў, і шалеў ад яе агіды. Раўнівы быў да белых вачэй, патрабаваў, каб жонка кінула трактары і перабралася назад у цялятнік, дзе з мужыкоў быў толькі Крывы Язэп. Параска моўчкі цярпела пабоі і гвалт, але з трактара не сыходзіла. Вёска бачыла, што «маладая» ходзіць уся сіняя, але гэта не было нейкай навіной. Ды і Кузьміха жыла з «маладымі» моўчкі, не ўмешваючыся. Усё часцей сядзела на печы ці на прызбе. Нешта сабе думала і мармытала, мо псалмы свае.

Гэта здарылася ў лістападзе. Параска пераворвала поле дацямна, раніцай мела скончыць, і таму не пагнала Броніка ў МТС, а загнала ў двор. Бронічак стаяў у цемры, з вокан клалася цьмянае святло на яго чырвоныя колы, высокае стырно, зыркую латку на гордых выпнутых грудзях. Трактар яшчэ лёгка дрыжэў, астываючы пасля цяжкога дня. Абцерла анучкаю морась на корпусе, абмяла дзеркачом колы, працерла кабіну. Жарэбчык мой гарачы!

Злазячы, убачыла, што ля трактара стаіць муж.

— Ну што, нацягалася, сука, да ночы са сваімі трактарыстамі?

— Пабойся бога, Ціхан, я арала дацямна! Жывой душы не бачыла!

Ціхан ударыў моўчкі, Параска грымнулася аб трактар і спаўзла на зямлю. Потым пабачыла, што сёння ёй будуць непярэліўкі: муж трымаў у руках цапільна.

Увогуле, вяскоўцы мелі свае правілы біцця жонак і дзяцей: спачатку рукою, потым папружкай, кулаком, нагамі, а потым ішлі і гаспадарчыя прылады — тупыя і вострыя. Калі гэты працэс ішоў млява,

## — Якая табе міліцыя, кулацкае адроддзе? Твой бацька хутаранін. А ты задушыла камсамольца!

муж паспяваў згрыбець, біцца ўжо не мог, і тады на ім адыгрывалася жонка. Ну, або сыны падрасталі і заступаліся за матку. Калі ж працэс ішоў хутка, то смялейшая баба магла ўратаваць, улупіўшы мужу якім скавароднікам, каб не ўстаў. Менш рызыкоўныя маглі пайсці да Чорнае Палуты, якая варыла слаўную вадзіцу і забяспечвала ёю жаночае навакольле. Вадзіцу Палуты можна было дадаць у гарэлку мужу — роўна столькі, каб ён «выхвараў, вычарнеў і выстагнаў», але ўстаў: без мужыка гаспадарка чэзне. Калі ж мужык трапіўся паганы і ўпарты — можна было даліваць у поліўку патрошку і незаўважна звесці яго на клады. Быў яшчэ і самы бяспечны спосаб: пакласці рукавы ад ягонай кашулі пад галаву нябожчыку (тады мужык прыціхне і рукі на бабу не падыме). Але дзе ты столькі нябожчыкаў набярэшся?

Аднак усе гэтыя меры прыпазніліся: перад Параскай стаяў ашалелы Ціхан і збіраўся адходзіць яе цапом. Параска паспела адкаціцца за трактар і пачула, як Бронік ціхенька завуркатаў, затросся і крануўся наперад. Нягледзячы на ягоны рык і трухкат, Параска пачула храбусценне, але крыку Буханка выдаць не паспеў. Толькі неяк нутрана вохнуў.

Яна падхапілася, скочыла на трактар і абязрушыла Броніка. Як так выйшла? Няўжо яна што забылася зрабіць? Штопраўда, у суседнім раёне трактар узяў пад колы п'янага трактарыста, але ж яна ніколі нічога не прапускала, усё рабіла правільна да дробачкі.

Галава працавала нібыта праз вату. Параска пайшла ў хату, папіла вады, бразгаючы зубамі аб кубак, і пазвала Кузьміху:

— Цётачка! Трактар Ціхана задушыў.

Кузьміха цяжка злезла з печы, запаліла святло, падслепавата зірнула ў спалатнелы твар Парасці і сказала:

— Бяжы і прывядзі Несцера. Нікому нічога не кажы. Вядзі Несцера.

Несцер прыйшоў, абышоў трактар, памацаў Ціханаву руку.

— Можна яго дастаць? Без каня ці машыны?

— Дзядзечка, трэба ж міліцыі даждаць, тады даставаць, — ледзь варушачы вуснамі, сказала Параска. — Якая табе міліцыя, кулацкае адроддзе? Твой бацька хутаранін і аднаасобнік. Аддаў зямлю і пайшоў раскулачваць. Каб нішчыць савецкіх людзей. А ты задушыла камсамольца, бедняка!

— А што ж рабіць?

— Нясі багор.

— Які багор, ты з глузду з'ехаў? — улезла Кузьміха. — Няхай трактар адгоніць.

— Спрабавала, не заводзіцца, — ледзь варушачы набрынялымі вуснамі, прамовіла Параска.

— Ну дык лом нясі, будзем даставаць. Толькі ў мяне адна рука, а Кузьміха старая, дык ты ўжо пастарайся сама.

Параска заўжды лічыла, што менавіта ў тую ноч яна падарвала паясніцу, і гэта ёй пакаранне. Ціхана неяк выдзерлі з-пад трактара, закруцілі ў радніну. Кузьміха пабегла ў хату, вярнулася з кручком самагонкі. Параска выпіла набгом, ачомалася і пайшла да трактара. Крутнула ручку — і Бронік весела задырчэў. Трактар адагналі, чорную лужыну засыпалі пяском і трэскамі ад дрывотні. Скрутак з Ціханам паклалі ў трактар, і Параска адвезла яго ў Лозку, да чортавага акна, якое вядзе ў бездань. З гэтае твані, ліпучай, як смала, нямажна было выцягнуць ні карову, ні авечку.

Там і дагэтуль ляжыць Ціхан Лашч, па-вулічнаму Буханка. Штопраўда, у яго застаўся сын, але не Лашч, а Мажэйка. А можа, і не толькі Мажэйка. У 1943 годзе, паміраючы ў балоце, дзе яны хаваліся ў блакаду, ля такога самага чортавага акна, Кузьміха сказала Парасцы:

— Пашанцавала табе, дзеўка. Каб не вайна, яны б так лёгка не адчапіліся. А ведаеш, чаго Несцер цябе ўсё жыццё бараніў? Сказаў, што Ціхан з калхоза ўцёк? Бо ты яго байстручка. Нагуляла цябе маці. І за гэта Пятро яе біў, пакуль не прыбіў.

Бронік СХТЗ 15/30 стаіць на высокім пастаменце ў слаўным мястэчку Багушэўск. Ціхан Лашч і старая Кузьміха спачываюць на самым дне сусвету. Несцер Жур — герой сацыялістычнай працы — ляжыць на кладах Красачкі. А ветэранка працы Праскоўя Пятроўна Мажэйка жыве ў доме ветэранаў і інвалідаў. За сваё доўгае жыццё яна не злазіла з дошкі гонару, усё больш падобная на абязьяну, як сказала б старая Кузьміха.

А цяпер Параску прыехаў павіншаваць сам прэзідэнт, падобны на яе моцны трактар і на яе самую, якой яна была некалі — заграбушчыя рукі, шырозныя плечы, сілішча. Падарыў букет, абняў. Волат, малойца.

Але ніхто і ніколі не можа зраўняцца з Бронікам Мятлушкам. Помняцца ёй яго сляды ботаў на раллі, залітыя дажджом. Яна тады падумала, што ўсё жыццё піла б з гэтых слядоў, абы толькі Бронік быў з ёй.

З часам у яе свядомасці Бронік — юнак і трактар — зусім зліліся, і з ейнага мармытання няшмат можна разабраць. Параска прасіла ўнука, каб той прыгнаў ёй Броніка і паставіў на магілу як «памятнік».

— Цяжка табе будзе, баба, пад трактарам, — сказаў унук.

— Дык і тому ж цяжка было, — адказала Параска.

*Увесь аповед з'яўляецца трызненнем, любыя супадзенні выпадковыя.*

# Шыкоўнае беларускае фэнтэзі

«Гэта як «Эрагон», але лепш, — сказала мне мая 12-гадовая дачка. — «А чаму лепш?» — «Бо гэта пра Беларусь, а не пра нейкую іншую краіну. Бо такое можа быць у рэальнасці. Гэта можа здарыцца з любым з нас», — адказала яна.

«Эрагон» — гэта кніга Крыстафера Пааліні ў жанры фэнтэзі, якая займела вялікую папулярнасць і якую мае дзеці шмат разоў перачытвалі.

А «Сем камянёў» пачынаецца з таго, як дзеці ў гарадку ідуць на раку, рамантуюць свае шалашы, майструюць плот, але выпадкам Яся на ім зносіць па плыні, а жэрдка-стырно ламаецца. Несла плыт, несла, занесла ў туман. Ясь заснуў, а прачнуўся — у моры.

«І яшчэ гэтая кніга вельмі добра напісаная», — сказала дачка.

Дзецям моцна спадабалася і мова твора. Ёсць у ёй нешта няўлоўна прывабнае для дзяцей і падлеткаў. Магія смешнага для дзяцей слова — скажам, як у расейскім перакладзе «Карлсана» яна ёсць, а ў беларускім — чамусьці няма. Дык вось, у «Сямі камянях» яна ёсць. Дзецям па душы ўсякія старыя беларускія словы, раскіданыя па тэксце.

«Мне вельмі спадабалася, — працягнуў мой 14-гадовы сын, — як Мірка сказала «Якая смаката!» — калі выпіла жывую ваду». І дзеці абое разрагаталіся.

Мірка — гэта адна з галоўных гераінь кнігі, дзеля выратавання якой і здзейсніць гераічнае падарожжа Ясь, да якога па чарзе далучаюцца сем Захоўнікаў.

Захоўнікі — гэта тыя людзі, якія захоўвалі Сем Камянёў. Сем Камянёў — гэта ключ да таямніцы жывой вады, якая вылечвае ад любых хвароб. Ключ стварыў добры валадар старажытнай Эферыі яе залатога веку — Справядлівы Магнус. Сем Камянёў далі сямі найлепшым сем'ям, кожная з якіх мела найлепшы талент у адной са сфераў. Таямніцу Сямі Камянёў можа раскрыць толькі адзін — той, каго старажытныя летапісы называюць Дастойным. Хлопец Ясь, які апынуўся ў дзівоснай краіне Эферыі, спрабуе разгадаць схаваную ў вяках загадку крышталяў, каб выратаваць жыццё сваёй сяброўкі і вызваліць Эферыю ад прыгнёту злога самазванца.

Пад Эферыяй — «зямлёй, што ляжыць за туманамі», — угадваецца Беларусь. І так, гэта кніга з другім і трэцім сэнсавымі слаямі. І другі з іх — пра Беларусь. Там ёсць дыктатар Вормар, які правіў 24 гады. І гэтыя зразумелыя дзецям паралелі прыводзяць іх у захапленне. «Мне вельмі спадабалася, што гэта да Беларусі падобна, — прызнаецца дачка. — Калі шосты захоўнік Стэфан падае сігнал да паўстання, узнімае залаты сцяг, гэта так блізка, так падобна з маімі марамі!» — кажа яна.

«Веснік Эферыі» — газету, якая піша праўду, — мае дзеці параўналі з «Нашай Нівай». І дэвальвацыі там таксама адбываюцца...

Увогуле, гэта ўсё знаёмае ў незнаёмым, што так падабаецца падлеткам.

Канечне, гэта фантастыка. У Эферыі вычэрпваюцца запасы вады, яна робіцца мутнай. Яна хоць і танная, але ёй можна атруціцца. А чыстая вада вельмі дарагая, даступная абраным.



**Аляксей Шэін. Сем камянёў.**
Раман / Мастак Раман Сустаў. — Мінск: «Пазітыў—цэнтр», 2015. — 416 с.

А вось момант праходу праз вялікія балоты, дзе жывуць вялікія чарвякі, якія рэагуюць на святло і на рух. «Гэта страшна?» — пытаюся. «Не, гэта проста цікава чытаць», — смяецца дачка. Многа магіі — вось што падабаецца дзецям. Магічная турма — гэта месца, дзе ёсць магічны калодзеж. Калі вып'еш з яго вады, то не зможаш выйсці з пустэльні. Цябе будзе магнітам цягнуць назад у турму.

«Неспрактыкаваны чытач знойдзе ў рамане асаблівы свет, захапляльны сюжэт і цікавых герояў, спрактыкаваны — выявіць глыбокую хрысціянскую падаплёку», — піша рэцэнзентка сайта «Вельвет.бай» Ганна Севярынец.

Кніга мае выдатную вокладку — тыповую для стылю фэнтэзі. Дзецям даспадобы і форзацы — там мапы месца дзеяння, і гэта спрашчае для дзяцей успрыманне рэальнасці. Усё тут цэльна ў сваім жанры.

Сапраўды, «Сем камянёў» могуць стаць галоўным прэтэндэнтам на прэмію Гедройца ў наступным годзе. Гэта кніга ў жанры, у якім раней па-беларуску не пісалі, створаная аднachасова з вялікім майстэрствам і сэрцам. Гэта добрая кніга, добрая ва ўсіх сэнсах гэтага слова.

**Андрэй Дынько**



ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

**12 чэрвеня ў школах Беларусі прайшлі выпускныя балі. На фота: у 23-й гімназіі Мінска таксама развіталіся з 11-класнікамі. Некаторыя выпускнікі і бацькі апранулі нацыянальныя строі, імпрэза ішла на беларускай мове. Паўсюль веяла беларускасцю, атмасфера выпускнога балю была вельмі цёплай і прыязнай.**



**У Тбілісі здарылася наймагутнейшая паводка. Як мінімум, 15 чалавек сталі яе ахвярамі. З затопленага заапарку грузінскай сталіцы паўцякалі звяры: ваўкі, тыгры, мядзведзі. Бегемота лавілі талакой.**



**Былая зорка рэаліці-шоу Сафія Хелквіст стала прынцэсай Швецыі. Яна выйшла замуж за шведскага прынца Карла Філіпа. Пышная цырымонія шлюбу адбылася ў Стакгольме. Сафія і Карл Філіп пазнаёміліся ў рэстаране ў 2010 годзе. 30-гадовая Хелквіст была мадэллю, здымалася для глянцавых часопісаў і працавала інструктарам ёгі да таго, як адкрыць дабрачынную арганізацыю. Яе жаніх, 36-гадовы прынц Карл Філіп, — трэці ў чарзе на шведскі трон.**



CITYDOG.BY

**У гандлёвым цэнтры «Сталіца» ў Мінску прайшла незвычайная гульня ў шахматы. У ролі фігураў выступалі жывыя людзі.**



## Анекдоты і жарты

* * *

– Староста, давайце залікоўкі.
— Вось.
— Нагадайце, які курс?
— Як і дамаўляліся: па курсе Нацбанка на сёння.

* * *

Прэс-сакратар Уладзіміра Пуціна заявіў, што ў выпадку ўзмацнення санкцый Захаду ён перастане купляць для сваёй палюбоўніцы грэчаскія футры. І тады эканоміка ЕС абрынецца канчаткова.

* * *

У трамваі:
— Гэта чорт ведае што такое! Такая цісканіна, што я ўжо гадзіну стаю на адной назе!
— І ўявіце сабе, якраз на маёй!

* * *

– Я забыўся дома прас выключыць!
– І што, у цябе цяпер усё згарыць?
– Не, блін, усе папрасуецца!

* * *

Сяброўка пытаецца:
– Цікава, а твой муж памятае дату вашага вяселля?
– На шчасце, не.
– А чаму «на шчасце»?
– Я нагадваю яму пра гэта некалькі разоў на год і кожны раз атрымліваю падарункі.

* * *

– Чаму ў цябе кожны дзень у календары абведзены ў кружок?
– Я ўсё жыццё чагосьці чакаю.

* * *

У стаматолага. Доктар:
– Усё, мы скончылі, вось ваш зуб.
Пацыент:
– Дзякуй, доктар, а вось ваша ручка ад крэсла.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Хто хоча цяпер прыехаць** у Вільню ў якіх справах ці на даўжэйшае жыццё (у апошнім выпадку можна толькі, калі лічыўся пастаянным жыхаром Вільні да 1 ліпеня 1914 года), той павінен падаць аб гэтым на імя губернатара просьбу віленскаму паліцмейстру аб выдачы належнага свядоцтва для ўезду.

**«НН». №23. 1915.**

**Скрабец на сэрцы.** Сяргей Скрабец галадае ў турме ўжо саракавы дзень. Ён столькі разоў абяцаў спыніць акцыю і столькі разоў выўлялася, што ён толькі супакойвае родных, што паўстае пытанне: ці спыніць ён галадоўку ўвогуле? А калі не, то што тады?..

**«НН». №23. 2005.**


# Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**




8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7001. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 16.06.2015.
Замова №2134.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614

